# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 27 (697) 6 ЛІПЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


НАСУСТРАЧ 25-ГОДДЗЮ




Ёсць такое слова «мегалаполіс», якім амерыканцы называюць свае аграмадныя, распаложаныя на прасторы сотні кіламетраў, гарады. Мегалаполіс значыць «супергорад». Яго вобраз, яго аграмаднасць выклікае здзіўленне, захапленне, ашаламленне і перапалох. «Супергарады» надалей хутка пашыраюцца, разрастаюцца, убіраюць у сябе суседнія вясковыя раёны, і стаем перад дакучлівым пытаннем: чым гэта кончыцца? Што будзе, калі «супергарады» расшырацца на ўвесь свет, што станецца з лугамі, кветкамі, лясамі?

Польшча мае таксама свой мегалаполіс. Афіцыйна называецца ён Горнашлёнскай прамысловай акругай. Чытачы, якія ніколі не былі на Шлёнску і ведаюць яго толькі з карты, на якой віднеюць асабліва згушчаныя ў гэтым месцы кружкі гарадоў — не разумеюць, што карта маніць. Шлёнск з'яўляецца сёння ўжо ў цэласці адным аграмадным горадам, з той розніцай, што кіруе ім не адна, а звыш дзесятка гарадскіх радаў нарадовых і гарадскіх адміністрацыйных адзінак. Увесь Шлёнск спойвае затое адна ўнутрыгарадская камунікацыйная сетка трамваяў і аўтобусаў, перавозячы пасажыраў за невялікай платай з аднаго канца Шлёнска ў другі. У шыбе трамвайнага акна адзін і той жа самы краявід — задымленыя вуліцы, коміны заводаў, вышкі шахтаў, горы адходаў вуглёвай прамысловасці.

Праз чорны, задымлены Шлёнск вандраваў я з даволі дзіўным запрашэннем у кішэні. Запрашэннем на міжнародную выстаўку кактусаў і сукулентаў. Помню, што ў мінулым годзе, у гэтую самую больш-менш пару мелі мы запрашэнне на міжнародную выстаўку ружаў у Катавіцах.

Пратэктарат над выстаўкай мае член Рады Дзяржавы, старшыня Ваяводскай рады нарадовай у Катавіцах — Ежы Зентэк. Мясцовыя ўлады сярод сотняў сваіх абавязкаў, якіх патрабуе кіраванне так разбудаванай прамысловай акругай, знаходзяць час, каб пунктуальна, у вызначанай гадзіне прыбыць на адкрыццё выстаўкі кактусаў. Тлум рэпарцёраў бліскае апаратамі, прадстаўнікі ўлад з зацікаўленнем схіляюцца над дзіўнымі фенаменамі кактусавай сям'і. Прамоў няма. Навошта. Усе і так ведаюць, што кактус ёсць кактусам і існуе па тое, каб у вольны час падліваць яго, даглядаць ды цешыцца яго кветкай, якая часам можа на ім паявіцца.



**На цэнтральнай плошчы Катавіцаў стаіць помнік паўстанцам Шлёнскім, якія змагаліся за польскасць шлёнскай зямлі.**

Выстаўка адбываецца ў выставачным цэнтры Ваяводскага парку культуры і адпачынку. Парк з'яўляецца найбольшым такога роду аб'ектам у Польшчы — займае каля 600 гектараў паверхні. Паказваю кіраўніцтву парку сваю камандзіроўку. Выклікаю гэтым здзіўленне і захапленне: «Беларускі тыднёвік «Ніва»?! Колькі дзён маеце на наведанне нашага парку? Адзін дзень? Шкада, што так мала! Парк можна аглядаць цэлы тыдзень. Прышліце нам абавязкова сваю газету з артыкулам аб Шлёнску».

Абяцаю прысла́ць і іду аглядаць Парк культуры і адпачынку. Ёсць тут сапраўды што аглядаць на цэлы тыдзень. Парк пабудаваны пры народнай уладзе супольнымі намаганнямі ўсяго шлёнскага грамадства. Пабудавана яго на дзікіх абшарах балоцішчаў і хмызнякоў. Цяпер у дзень летняга адпачынку ў парку зграмаджваецца па некалькі сотняў тысяч жыхароў Шлёнска. Кожны з іх можа знайсці сабе гульню і адпачынак па душы.

Вось хаця б вядомае ўсюды «вясёлае мястэчка». Гульня для дзяцей і старэйшых. Для старэйшых працуюць розныя найдзіўнейшыя ў свеце «чартоўскія

Працяг на стар. 4



**На адной з цэнтральных вуліц Катавіцаў.**

## VI З'ЕЗД БГКТ

## ДА ВАС, МАЛАДЫЯ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА БЕЛЬСКАГА АДДЗЕЛА РЫГОРА СЕМЯНЮКА)**

Таварышы дэлегаты. Ужо мінула 13 год, калі першыя гурткі нашага таварыства арганізаваліся пад песню і музыку. І аказваецца, што і зараз, як гаварыў нам прадстаўнік Гданьскага аддзела, таксама бывае. Аднак, на вялікі жаль, наша праца ў вясковых беларускіх асяродках не ўсюды роўна праводзіцца. Ёсць гурткі актыўныя і такія, якія нічога не робяць. Дзе гурткі жывуць і дзе яны самастойна добра дзейнічаюць, туды, даволі часта, прыязджае і актыў. Але дзе гурткі ледзь-ледзь дыхаюць, туды нікому не хочацца заехаць, бо там кепска ідуць справы. А гурток сам па сабе выйсці з заняпаду не можа і дапамогі няма яму ні з павета, ні з цэнтра. Справа, значыць, дрэнь.

**Фота Цаф — Сянько**

У нас на Бельшчыне гурткі арганізаваліся зараз у першых гадах, калі толькі ўзнікла таварыства. Арганізаваліся яны пад музыку. Васіль Кардзюкевіч браў гармошку і разам з Кастусём Майсенем ішлі па вёсках. Дзе гармошка заіграла, там збіралася моладзь і зараз паўставаў гурток. Аказваецца, што і сёння гэтае ж самае практыкуецца. Толькі мала. Ды на вялікі жаль ці то дзяўчына ці хлопец — члены Беларускага таварыства — як толькі пажэняцца, адразу перастаюць быць членамі гэтага гуртка. Яны ўжо не ходзяць на сходы, не прымаюць удзелу ані ў аматарскіх калектывах, ані ндзе, яны сябе лічаць ужо непаўнавартаснымі. На жаль, нашы інструктары — ці то павятовага аддзела, ці то Галоўнага праўлення, паўнаплатныя ці малаплатныя — зусім мала ўвагі прыдаюць гэтай справе. І тут, з гэтага месца, я спецыяльна заклікаю гэтую моладзь, якая сёння ў нас на з'ездзе, каб гэтую справу мела на ўвазе. Гэта ўжо астанецца іх справа. Сваю назойлівую і цяжкую працу мы перадаем ім.

Мне часта даводзілася бываць у гурт-

Працяг на стар. 4




### ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

**Нядаўна адбылося першае пасяджэнне праўлення Сакольскага аддзела БГКТ пад кіраўніцтвам новага старшыні Расціслава Мазалеўскага. Прысутныя абмеркавалі: а) спосабы выканання прапаноў з пастановы справаздачна-выбарчай канферэнцыі, б) справы звязаныя з адзначэннем 25-ай гадавіны Народнай Польшчы, в) кожнаму члену праўлення прыдзелены вясковы гурток БГКТ, якому павінен ён аказаць дапамогу ў працы.**

### ШКОЛЬНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

**21-га чэрвеня ва ўсіх школах адбыліся ўрачыстасці ў сувязі з заканчэннем навучальнага года. Актыў Гайнаўскага аддзела БГКТ узяў удзел у гэтых урачыстасцях і найлепшым вучням з беларускай мовы ўручыў кніжкі.**

### ФЕСТЫН

**22-га чэрвеня Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў у Семяноўцы фестын прысвечаны 25-ай гадавіне народнай улады. Прысутнічалі на ім прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад: першы сакратар Павятовага камітэта ПАРП Аляксей Лазоўскі, сакратар прапаганды Вацлаў Барташук, намеснік старшыні Павятовай рады нарадовай — Іван Панасюк, камендант павятовай міліцыі — Станіслаў Пятровіч, старшыня павятовага праўлення ЗМВ — Антон Кондрат, дырэктар павятовай пошты — Мікола Суліма і іншыя, уключна з мясцовымі семяноўскімі ўладамі.**

**Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку прадстаўляў Мікалай Куц, а Галоўнае праўленне — старшыня ГП Міхась Хмялеўскі і сакратар — Янка Зенюк. У фестыне ўзялі ўдзел таксама нашы літаратары: Алесь Барскі, Віктар Швед і Сакрат Яновіч.**

**Урачыстасць адбылася на школьным пляцы. Адкрыў яе сакратар гуртка БГКТ у Семяноўцы Юрка Кіслы. Пасля прывітальнага слова з дакладам выступіў старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк. Перад яго выступленнем гарцэры з Семяноўкі адспявалі прывітальную песню. Зместам даклада былі дасягненні народнай улады ў развіцці краіны з асаблівым падкрэсленнем Гайнаўскага павета. Пасля абшырнага і змястоўнага даклада пачалася мастацкая частка. На сцэне (зроблена яна была з дзвюх самаходных прычэпаў і ўпрыгожана па баках бярозкамі) першай выступала харавая група аддзела БГКТ з Гайнаўкі. Потым арганізавана была «згадуй-згадуля» з узнагародамі. Затым выступіла эстрада з вёскі Арэшкава, якая сучаснымі песнямі зацікавіла ўсіх прысутных.**

**Наступным пунктам праграмы быў конкурс на тэму гігіены. Пераможцы атрымалі багатыя рэчавыя ўзнагароды. Потым выступіў хор з Гарадка, а за ім хор мясцовай школы.**

**Гарцэры з Семяноўкі маюць найбольшыя дасягненні ў сваёй працы. І тут, на сцэне, камендант гуфца Аляксей Харкевіч уручыў дыплом апекуну гарцэраў — настаўніцы Ніне Пташынскай.**

**Мастацкая частка працягвалася амаль тры гадзіны. Фестын добра быў забяспечаны ў харчовыя прадукты. Было што з'есці, хапіла напіткаў і марожанага аж да самага вечара. Пасля фестыну ў святліцы адбывалася забава. Варта падкрэсліць, што ўсё на фестыне было дасканала арганізавана, за што належыцца падзяка Віктару Буру, Юрку Кісламу, Валянціну Карпюку, Івану Шыманюку і іншым мясцовым людзям Семяноўкі. (М. С.)**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### НОВЫ ЎРАД ЙЕМЕНА

У Народнай Рэспубліцы Паўднёвага Йемена наступіла нядаўна змена ўрада. Былы прэзідэнт устаронены. На чале дзяржавы стаіць прэзідэнцкая рада, якая складаецца з 5 чалавек. Прэзідэнцкая рада складаецца з маладых людзей, якіх узрост каля 30 год. Гэты пераварот быў спакойны і не пацягнуў ніякіх людскіх ахвяр.

У праграме новай прэзідэнцкай рады гаворыцца аб умацаванні дэмакратыі, аб цесным супрацоўніцтве з арабскімі і сацыялістычнымі краінамі.

Варта напомніць, што тэтая дзяржава найбольш пацярпела з прычыны закрыцця Суэцкага канала. Да портаў Йемена прыбывала каля 600 суднаў. Пабудавана тут вялікі нафтакамбінат, дзе ўспомненыя судны абеспячаліся бензінам. У сувязі з закрыццём Суэцкага канала праца порта і нафтакамбіната вымушана была вельмі агранічыць сваю дзейнасць.

### АТАКА НА ШЫЦА

Бургамістр Заходняга Берліна Клаўс Шыц пасля пабыўкі ў Польшчы апублікаваў у адным з нумараў «Дзі Цайт» артыкул, у якім гаворыць аб сваіх уражаннях з пабыўкі ў Польшчы, а таксама на яго думку рэальных канцэпцыях палітыкі ФРГ у адносінах да Польшчы. Гэта выклікала атаку з боку германскіх хрысціянскіх дэмакратаў і перасяленцаў.

### ЗАКОН АБ ДРУКУ

У Празе адбылося пасяджэнне Палітычна-праўнай камісіі Бюро ЦК КПЧ для спраў кіравання партыйным друкам на чэшскіх землях. Камісія абсудзіла актуальную сітуацыю ў галіне падрыхтоўкі закона аб друку. Камісія выказала згоду на прапанову, якая абазначае пераход з папераджальнага кантролю друку на эфектыўны кантроль. Камісія парэкамендавала, каб апрацоўку закона аб друку закончана ў першай чвэрці будучага года.

### А ГЭТА ШТОСЬЦІ АБАЗНАЧАЕ

Пасля 5 дзён абмяркоўкі амерыканскі Сенат, наперакор супраціўленням адміністрацыі Ніксана, 25 чэрвеня г.г. прыняў агромнаю большасцю галасоў, бо аж 70 галасамі супраць 16 (на агульны лік 100 сенатараў), рэзалюцыю, у якой дамагаецца, каб прэзідэнт не паднімаў мілітарных або фінансавых абавязацельстваў на карысць іншых краін без адабрэння Кангрэса (г.зн. перш за ўсё Сената, а таксама Палаты прадстаўнікоў). Ініцыятарамі былі два сенатары: адзін — дэмакрат, а другі — рэспубліканін. Калі разыходзіцца аб арыфметычны бок складу Сената, дык ёсць тут 58 дэмакратаў і 42 рэспубліканаў. З гэтага вынікае, што за пастановай галасавалі таксама сенатары з партыі дэмакратычнай і з рэспубліканскай, г. зн. партыі прэзідэнта Ніксана.

Гэтая пастанова, хаця ў сэнсе фармальным прэзідэнт не мусіць яе рэалізаваць, мае бясспрэчнае палітычнае значэнне.

А.К.



## БССР

### ЖУРНАЛІСТАЎ

Адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў Мінска, у якой прынялі ўдзел рэдактары, загадчыкі аддзелаў прапаганды і партыйнага жыцця цэнтральных газет, рэдактары часопісаў, кіраўнікі радыё і тэлебачання, дырэктары выдавецтваў, уласныя карэспандэнты маскоўскіх газет і радыё па Беларускай ССР.

Прэс-канферэнцыя была прысвечана вынікам міжнароднай Нарады камуністычных і рабочых партый у Маскве.

Затым сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч расказаў журналістам аб падрыхтоўцы да 25-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На палях Беларусі разгарнулася адна з найбольшых бітваў апошняй вайны — Беларуская стратэгічная наступальная аперацыя.

### НЕПАЎНАЛЕТНІХ

На пасяджэнні Камісіі па справах непаўналетніх пры Савеце Міністраў БССР заслухана справаздачу сакратара Беларускага савета прафсаюзных арганізацый М. Дубковай — «Аб рабоце прафсаюзных клубаў з дзецьмі».

У Беларусі налічваецца 623 прафсаюзныя палацы, клубы і дамы культуры. Пры 111 з іх працуюць дзіцячыя сектары, у 173 створаны пакоі школьніка.

### СУДА

Пад старшынством А. Бондара з удзелам пракурора БССР І. Пастрэвіча адбыўся пленум Вярхоўнага суда Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб дзейнасці беларускіх судоў па забеспячэнню аховы сацыялістычнай уласнасці ў калгасах і саўгасах.

### САЦЫЁЛАГАЎ

У Беларускім дзяржаўным універсітэце адбыўся сімпозіўм сацыёлагаў Беларусі, Расіі, Украіны і іншых рэспублік. У парадку дня сімпозіума — вытворчая дзейнасць жанчын і сям'я.

### ТРЭЦІМ

На Трэцім калійным камбінаце ў Салігорску датэрмінова здадзена ў эксплуатацыю склад руды. Яго ўмяшчальнасць — 60 тысяч тон. Здадзена ў эксплуатацыю таксама рамонтна-механічны і электратэхнічны цэхі.

### МІЛЬЁННЫ

Напярэдадні 25-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Мінскім радыёзаводзе сышоў з канвеера мільённы транзістар — — «Гарызонт», сёмая мадэль фабрычных канструктараў.

### СІНЯЎСКАМУ

Івану Сіняўскаму, вядомаму беларускаму пісьменніку. споўнілася пяцьдзесят гадоў.

### БЕЛАРУСКАЙ

Выдавецтва «Беларусь» выпусціла на беларускай мове кніжку твораў М. Лермантава «Выбраная паэзія». У кніжку ўвайшлі выбраныя творы і паэмы «Мцыры» і «Дэман». Гэта ж выдавецтва выпусціла паэму Генры Лангфела «Спеў аб Гаявацe».

Пераклады зрабіў народны паэт БССР Аркадзь Куляшоў.

### АЛЬБОМ

Саюз журналістаў Беларускай ССР выдаў альбом-выстаўку, прысвечаную паўвекавому юбілею Беларусі, яе дзяржаўнасці, дасягненням за гады сацыялістычнага будаўніцтва.

(ся)



## ПОЛЬШЧА

### ЗА АДЗІНСТВА КАМУНІСТЫЧНАГА РУХУ

25 чэрвеня адбылося ў Варшаве III пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі прысвечанае міжнароднай нарадзе камуністычных і рабочых партый, якая адбылася ў Маскве ў днях 5—17 чэрвеня 1959 г. Справаздачу з ходу нарады і дзейнасці на ёй польскай партыйнай дэлегацыі склаў I сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка. Пацвердзіў ён вялікае значэнне нарады, якая разважыла цэнтральныя праблемы нашага часу: праблемы вайны і міру, барацьбы дзвюх сусветных сістэм і нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Адной з асноўных рысаў нарады была поўная яўнасць яе абрадаў, адкрытая канфрантацыя розных становішчаў і поглядаў, поўны дэмакратызм выказванняў.

Было гэта праявам палітычнай і маральнай сілы камуністычнага руху, а адначасова пазбавіла антыкамуністычную прапаганду магчымасці перакручвання фактаў распаўсюджвання фальшаў і дэзінфармацыі. Тав. Ул.Гамулка прыпомніў, што ад папярэдняй нарады камуністычных і рабочых партый, якая адбылася ў 1960 годзе, мінула 9 гадоў. Ужо значна раней існавала патрэба склікання нарады, адбыцца аднак яна не магла з прычыны раскольніцкай дзейнасці кіраўніцтва Камуністычнай партыі Кітая. Прамоўца падрабязна ахарактарызаваў гісторыю захадаў вакол склікання нарады і перашкоды, якія на дарозе да гэтага ставіла кіраўніцтва КПК. Не гледзячы на гэта ў нарадзе прыняла ўдзел аграмадная большасць камуністычных партый свету.

Гаворачы аб ходзе самой нарады прамоўца падкрэсліў, што аніводная супярэчлівая справа не была развязана дарогай накідання меншасці становішча большасці: «У адносінах паміж партыямі нельга прымяняць прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму, які абавязвае кожную марксісцка-ленінскую партыю ў яе ўнутраным жыцці, — сказаў Ул. Гамулка.

Тав. Ул. Гамулка падрабязна ахарактарызаваў праблемы, у адносінах да якіх у міжнародным камуністычным руху няма аднадумнасці і акрэсліў становішча ў гэтых справах нашай партыі. Праблемамі гэтымі была перш за ўсё ацэнка дзейнасці кіраўніцтва Камуністычнай партыі Кітая і ацэнка рашэння 5 сацыялістычных дзяржаў аб накіраванні ў Чэхаславакію войскаў дзяржаў Варшаўскага дагавору. Становішча пераважаючай большасці камуністычных партый было ў гэтай справе згодным са становішчам нашай партыі.

На заканчэнне тав. Ул. Гамулка падкрэсліў, што нарада ўнесла ў палітычную думку міжнароднага камуністычнага руху вялікія і трывалыя вартасці, а яе дакументы павінны быць грунтоўна вывучаны шырокім актывам нашай партыі.

Цэнтральны Камітэт поўнасцю адобрыў становішча нашай партыйнай дэлегацыі на Маскоўскай нарадзе.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ЗАКЛІК

Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народа ў Беластоку выступіў з заклікам да бацькоў, дзяцей, моладзі і турыстаў, каб не вялі сябе лёгкадумна, калі будуць купацца, ісці па дарогах і знаходзіцца ў лесе. У закліку падаецца, што летам мінулага года на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ўтапілася 41 асоба, згарэла 480 будынкаў, а пажараў было аж 410, у тым 98 разы гарэў лес, на дарогах 26 асоб было забітых, а звыш 200 параненых. «Хай гэтыя лікі, — сцвярджае заклік, — будуць перасцярогай для лёгкадумных».

### РЭКТАР

Міністр Асветы і вышэйшага школьніцтва паўторна назначыў на пасаду рэктара Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку дацэнта доктара інжынера Уладзіміра Хомчыка. Прайшоў ён слаўны шлях ад звычайнага рабочага беластоцкай металаапрацоўчай фабрыкі («ухвыты») да навуковага працаўніка. Дыплом інжынера атрымаў ён у Шлёнскім палітэхнічным інстытуце і там таксама абараніў доктарскую дысертацыю. У Беластоку працуе ад 1 верасня 1966 года. Рэктарам Вышэйшай інжынерскай школы стаў у 1967 годзе. У Беластоку вядомы ён як партыйны дзеяч, член Ваяводскага камітэта ПАРП і член шматлікіх навуковых арганізацый.

### ТЭАТР БЕЛАСТАЧАНАМ

У нядзелю вечарам калектыў Беластоцкага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі выступіў са спектаклем пад адкрытым небам. На сходах тэатра была пастаўлена трагедыя «Сід» французскага драматурга з XVII стагоддзя П. Карнеля. Жыхары Беластока маглі зусім свабодна і бясплатна захапляцца адной з лепшых п'ес у сусветнай драматургіі. Арганізатарамі спектакля з'яўляліся спулдзельні «Сполэм» і «Грамада». Спектакль наладзілі яны ў гонар юбілею народнай ўлады.

### ПАДРЫХТАВАНЫЯ

Незадоўга пачнецца жніво. У Сямяціцкім павеце падрыхтавана да гэтага важнага і працавітага для сялян перыяду 365 трактараў і звыш 200 снопавязалак. Курсы трактарыстаў закончыла 200 аматараў тэтай прафесіі. На скошанае і высушанае збожжа чакае 234 абмалотачныя агрэгаты.

Стан падрыхтоўкі да спраўнага правядзення збору збожжа нядаўна разглядала ў Сямяцічах Сельскагаспадарчае бюро Павятовага камітэта ПАРП. Вынік гэтай ацэнкі — добры.

### МАТЧ ГРОДНА—БЕЛАСТОК

У Гродне пабывалі жаночая і мужчынская лёгкаатлетычныя каманды з Беластока. Разыгралі яны матч з Гродзенскімі спартсменамі. Агульны вынік матча выпаў у карысць гродзенскіх лёгкаатлетаў, якія перамаглі на 23 ачкі. Галоўная ў тым заслуга гродзенскіх спартсменак, бо мужчынская каманда Гродна прайграла з беластоцкай камандай лікам 83:88.

(вр)




**Niedziela, 6.VII.**

9.00 Program dnia. 9.05 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.30 ,,Opowieść o starych mistrzach'' (Moskwa). 10.05 Dla młodych widzów: ,,Moda i muzyka'' — program TV NRD. 10.35 ,,Wielka wyspa' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 11.30 ,,Bawcie się z nami'' — amatorskie zespoły przed kamerami. 12.10 Dziennik. 12.30 ,,Gdańsk — Leningrad''. 13.30 ,,Przemiany''. 14.00 ,,My-69'' — teleturniej. 15.05 ,,Ojciec i syn'' — film .15.35 ,,Dzieci Nubii'' — rep. film. 16.10 ,,Spotkanie z pisarzem''. 16.40 Teatr TV: A. Musset — ,,Barberyna''. 17.45 .,,Z Ulicy wesołej...'' — rep. film. (,,Ludzie i zdarzenia''). 18.05 ,,Teatrzyk Jednego Satyryka'' — ,,Jerzy Jurandot i Jego goście''. 19.00 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.10 ,,Szymon i Laura'' — film fab .ang. 21.40 PKF. 21.50 ,,Przygody prof. Tutki'' — fiilm TVP. 22.05 Blok Sportowy.

**Poniedziałek, 7.VII.**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Opowieści ze świata zwierząt'' — film. 17.25 ,,Echo Stadionu''. 17.50 ,,Tam, gdzie powstała Malwa'' — film radz. 18.05 ,,Eureka''. 18.40 ,,Śladami Wielkich Przemian'' — ,,Miasteczko Śląskie''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Festiwal Teatrów Dramatycznych: M. Gogol — ,,Rewizor''. 21.55 ,,Panorama Literacka''. 22.25 Dziennik.

**Wtorek, 8.VII.**

10.00 ,,Dama z tramwaju'' — film fab. czechosłowacki. 11.20 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 ,,Jaworowe skrzypeczki'' — film czechosł. 17.15 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Ziemia'' — rep. film. (,,Szlakiem Wielkich Przemian''). 20.35 ,,Dama z tramwaju'' — film fab. czechosł. 21.55 Dziennik. 22.10 ,,Latająca piłka'' — film jap.

**Środa, 9.VII.**

8.15 ,,Matematyka w szkole'': ,,Wprowadzenie w dedukcyjną geometrię'' cz. I. 10.00 ,,Przygoda w Chożdencie'' — film fab. radz. 11.35 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 ,,Teleferie''. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 Wszechnica TV: ,,Sztuka liczenia''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Festiwal Teatrów Dramatycznych: Triso di Molina — ,,Zielony gil''. 21.40 ,,Światowid''. 22.10 PKF. 22.20 ,,Śmierć Fedry''. Film. nowela franc. 22.45 Dziennik.

**Czwartek, 10.VII.**

15.00 ,,Matematyka w szkole'': ,,Wprowadzenie w dedukcyjną geometrię'' cz. II. 16.40 Program dnia. 16.45 ,,Przypominamy, radzimy''. 16.50 Dziennik. 17.00 ,,Nie tylko dla pań''. 17.20 Film. 17.35 ,,Magazyn ITP''. 17.45 TV Kurier Kielecki. 18.00 ,,Stocznia'' — rep. (,,Szlakiem Wielkich Przemian''). 18.30 ,,Mongolia'' — film mong. 19.00 Przemówienie Ambasadora Mongolskiej Republiki Ludowej. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Wieczory w Łazienkach''. 20.35 ,,Spotkanie w Genewie'' — film fab. NRD cz. I. 21.50 ,,Rozmowy o książkach''. 22.05 Dziennik.

**Piątek 11.VII.**

10.00 ,,Spotkanie w Genewie'' — film fab. NRD cz. I. 11.15 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 ,,Teleferie''. 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 ,,Stawka — nowoczesność'' — progr. ekonom. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,A gdy po pracy wolny mamy czas'' — tańczą i śpiewają zespoły amatorskie Moskwy i Warszawy (Moskwa — Warszawa). 21.00 ,,Spotkanie w Genewie'' — film fab. NRD cz. II. 22.20 Dziennik.

**Sobota, 12.VII.**

10.00 ,,Spotkanie w Genewie'' — film fab. NRD cz. II. 11.20 Przerwa. 15.50 Program dnia. 15.55 Program tygodnia. 16.15 ,,Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1944''. 16.45 Dziennik. 17.00 Sprawozdanie z trójmeczu lekkoatletycznego Polska — ZSRR — NRD (Chorzów). 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Z wizytą u Was'' — program rozrywkowy z Zakładów im. Koszutskiej w Częstochowie. 21.20 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 21.40 ,,Bohater naszych czasów — Bella'' — film fab. radz.




**Piątek, 4 lipca**

8.00 Nowiny. 8.15 ,,Przyjdź, bajko''. 8.45 Dla uczniów. 9.15 ,,Pisarz i jego książki''. 9.45 ,,Wańka''. Film fab. 10.15 Dla przedszkolaków. 10.45 Dla uczniów. 13.45 Program dnia. 13.50 Akademia poświęcona 25-leciu wyzwolenia Białorusi. 19.45 TV barwna. 20.50 ,,Panorama nowin''. 21.30 ,,Piotr Kupryjanow i inni''. 21.50 Nowiny.

**Sobota, 5 lipca**

8.00 Program muzyczny. 8.30 ,,Syn artylerzysty''. 8.50 Reportaż z uroczystego odsłonięcia Kurhanu Chwały. 10.45 Film dla dzieci. 12.15 ,,Szkatułka muzyczna''. 12.35 Przegląd międzynarodowy. 13.00 ,,Atlas narodów ZSRR''. 13.45 Nowiny. 14.00 Koncert. 14.40 ,,Panorama nowin''. 15.00 TV barwna. 16.30 ,,Wakacje''. 17.30 Dni Kultury PRL w ZSRR. ,,Stawka większa niż życie''. III seria. 18.40 ,,Panorama nowin''. 19.10 Film TV. 20.30 Reportaż z odsłonięcia pomnika męczeństwa ,,Chatyń''. 21.00 ,,Słońce nad miastem''. 21.10 Koncert zespołów amatorskich. 21.40 Nowiny.

**Niedziela, 6 lipca**

8.00 ,,Kiosk muzyczny''. 8.30 Dla żołnierzy. 9.30 ,,Pomniki architektury''. 10.00 Dla uczniów. 10.30 ,,Godzina wiejska''. 11.30 Program z NRD. 12.30 ,,Stawka większa niż życie''. IV seria. 13.45 ,,Panorama nowin''. 13.55 Wiec mieszkańców Mińska i sportowo-teatralne widowisko. Transmisja ze stadionu ,,Dynamo''. 17.20 Film — koncert. 18.05 ,,Panorama nowin' 18.25 Film fab. (sportowy). 20.00 ,,Siedem dni''. 20.45 ,,Panorama nowin''.

# Польшча ў беларускай паэзіі


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 127


**З нагоды 25-й гадавіны ПНР ліпеньскую літаратурную старонку прадстаўляем беларускім паэтам, іх творам, прысвечаным нашай краіне і беларуска-польскай дружбе.**

* * *

Мае браты, мае суседзі,
Свабодны, новы польскі люд!
Няхай жа песняй звонкай медзі
Красуе наша дружба тут!

Няхай жа стане тленню, прахам
Жыцця мінулага ярмо!
Мы пойдзем далей новым шляхам,
Друг другу руку падамо!

Сустрэнем дружна дзень наш новы,
У мірны рушымся паход.
Няхай не будзе больш згрызот
І змоўкнуць непрызні злыя словы!

**Якуб Колас**



### СТАСЯ

Паблізь Віслы хаціна,
Пры хаціне садок.
Маладая палячка
Заплятае вянок.

За раку пагладае,
Быццам вішня сама, —
А яго ўжо не чутна,
А яго ўсё няма.

Сталі яблыні вышай
У гамонцы лістоў,
Ужо шостае лета,
Як на захад пайшоў.

Час яму б і вярнуцца,
Хоць паход і цяжкі —
Немалая ж дарога
Аж з-пад Волгі-ракі.

Стася хлопца чакае,
Хоць мінаюць гады...
Чым запаў ён у сэрца,
Той салдат малады?

Мо таму, што з напасці
Бацькаў вызваліў дом,
Мо таму, што спяваў ён,
Ну, нібы салаўём.

Мо таму, што быў просты,
Як струмень яснаты,
Мо таму, што быў дужы,
Як са сталі зліты.

Помніць — кветкі дарыла,
Многа часу з таго...
Што ж тады не сказала,
Хоць бы слова свайго.

Вельмі
Цяжка, дзяўчына,
Ды, скажы ты бывай! —
Ён вярнуцца не можа,
Ты яго не чакай.

Ён загінуў, каб сёння
Кожны ў радасці жыў —
Ён дзіця над Берлінам
Да грудзей прытуліў.

Перад ім яшчэ хмурыць
І грыміць далячынь —
Ён стаіць жа спакойны
І рука на мячы.

**Пятрусь Броўка**



### ЛАСТАЎКІ Ў НЕБЕ, АБО ШТО ДУМАЛА МАЦІ ГЕРАІЧНАЙ ПАДПОЛЬШЧЫЦЫ АНІ МАРОЗАВАЙ, КАЛІ АТРЫМЛІВАЛА ДАЧЧЫН «КРЫЖ ГРУНВАЛЬДА»

Аня! Анечка...
Думала, будзе на старасці ўцеха.
Ці даўно я сама падкідала цябе на руках?
Ці даўно выпраўляла ў трывожны шлях?
А цяпер...
вунь куды давялося заехаць.
Як вайною карцела сказаць: «Мо не трэба?..»
Не магла — час нікога тады не бярог.
«Мы сустрэнемся, мама, як ластаўкі ў небе...» —
І пайшла.
Толькі цень горка лёг
на парог
І на сэрца мае...
І ўжо колькі ні плачу,
А ён, цень той, як камень,
ляжыць і ляжыць...
Праз яго і цяпер я нічога не бачу —
Людзі, людзі ў тумане...
А ты ж магла жыць...
Як і я, як яны,
як маршалак таксама,
Што ўрачыста падносіць мне «Грунвальда Крыж».
А мне чуецца голас: «Ты прыехала, мама?
Мама, родная мамачка!... Што ж ты маўчыш?
Усміхніся — я ж побач, я тут, я з табою...
Бачыш: ластаўкі ў небе... Давай паляцім...»
А куды?
Калі неба павісла слязою
Над зямлёй і няўцешным маўчаннем маім?

Дзе ж узяць я магу тыя лёгкія крылы,
Што ўздымалі цябе?
Ты, як памяць, маўчыш.
І ўжо «Грунвальда Крыж» устае над магілай,
Быццам гора вялікага выліты крыж.
Без цябе мне цяпер анічога не трэба,
Ўсё, што мог, мне аддаў, не шкадуючы, лёс...
Толькі б неба было... Толькі б ластаўкі ў небе...
Толькі б юныя маці не зведалі слёз.

**Алесь Бачыла**



### ВАРШАВА

Панна Варшава
не раз вырашала
Якія туфелькі ёй да спадобы,
Якой дарогай ісці да свабоды.
Плыла між чаротамі
льдзінкай падталай,
Зачароўвала
Напалеона таліяй.
Як Елена з Парысам,
панна Варшава
Какетавала з Парыжам.
Падымала кілішак
на ножцы гранёнай,
Цягнік варожы перакуліўшы,
гладзіла ствол варанёны...
Вайна адгрымела —
пані Варшава
Стаяла каля варштата.
Меней у супе
стала мяса,
Затое з-пад броў насупленых
зноў усміхалася Старэ Място...
Лютуе Шапэн у Лазенках пад хмарай навіслай.
Травою трывога пазарасла.
І хоць сірэны сышлі з арэны —
Са шчытом і мечам выйшла
на бераг Віслы
Русалка вайсковапавінная —
Сірэнка.
У паненкі выстрачана
дзявочая сукня
Радком міцкевічаўскім вершаваным.
У тужурцы
будзіла планету сумную
Дачка яснавалосая —
«Варшавянка».
Мне плыць бы па Віслe ўспамінаў чоўнам!
Як Варш нарачоны,
шапчу ёй: «Сава...»
Нех мі даруе
панна Варшава.

**Рыгор Барадулін**



### ВАДАСПАД АДАМА МІЦКЕВІЧА

Даліна, горная Растока,
Крутыя Татры, буралом,
Дзе, быццам крэсівам, патокі
З круч высякаюць іскры, гром!

Тут нельга кроку не спыніць,
Не паглядзець на гэта дзіва,
Дзе з неабсяжнай вышыні
Злятае вадаспад імкліва.

Вось ён, успенены, нясе
Мігценні сонечныя ўсе,
Бель снежных гор і зараніцы,
Блакіт нябёсаў, бліскавіцы.

Адбіўшыся ад валуноў,
Ад вострых турняў і абочын,
Вясёлкаю ўзлятае зноў,
Пяе, шуміць, звініць, ракоча.

Гавораць людзі, што заўжды,
Хто б ні прышоў да вадаспаду,
З яго напіўшыся вады,
Адчуе ў сэрцы шчасце, радасць.

І мы, змарыўшыся, пілі,
Ваду ў біклагі набіралі.
Не, не дарма яму далі
Імя Міцкевіча гуралі!

**Максім Танк**



### НАД БУГАМ

А там, на левым беразе, палякі;
У свята цёткі ходзяць да радні,
Дарожныя пабеленыя знакі
Спыніліся ля чуткай глыбіні.

«Варшаўскі мост» вітаю, быццам друга,
З давер'ем падаю яму руку.
Плыве пад намі паўнаводдзе Буга,
Плыве граніца, што лягла ў раку.

Даўно з братамі хлеб і соль мы дзелім,
І вось вада — таксама папалам.
Спавіты берагі лазой і хмелем,
І тут было б не цесна паплаўкам.

І добрым вудам. Ды не тым заняты
Дазоры ўсцяж маўклівых рубяжоў;
Два берагі — два на масту салдаты,
Каб хтось з-за Эльбы вудзіць
не прыйшоў.

**Аляксей Пысін**

### НА МАГІЛЕ БЕЛАРУСКІХ ПАРТЫЗАН У ГАЙНАЎСКІМ ПАВЕЦЕ БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА

Над Белавежаю — шугае сонца,
Над Белавежаю — высокі дзень.
А ў Белавежы — цэдзяць водар сосны,
На баравінах млее рэдкі цень.

А ў Белавежы, на прагалку вузкім,
Дзе курганок магільны горбіць дол,
Ля абеліска хлопцам беларускім
Сышліся людзі з навакольных сёл.

Паклаўшы кветкі смутку і любові —
З лугоў рамонкі, а з палян званкі, —
Усе ў святочным, тоўпяцца гурбою,
І вочы труць хусцінкамі жанкі.

Счапіўшы рукі ля грудзей гаротна,
Яны глядзяць на золата імён.
А ў сэрцы ў кожнай — боль па блізкіх, родных,
Якім другія дзесь нясуць паклон.

А вочы ў кожнай — як у маткі боскай:
Ўсё той жа крык, няўчуты праз вякі:
Калі ж, калі, вялікі род людскі,
Ты станеш жыць без войнаў і забойстваў?

**Ніл Гілевіч**



 

Пачатак на стар. 1

# Мегалаполіс



**У супергарадзе — супергмахі! Фрагмент найвялікшага ў краіне памяшкальнага гмаху, у якім жыве каля 3 000 асоб.**

млыны», якія прыдаюць чалавечаму целу гвалтоўны рух у розных плошчах і розных напрамках ашаломліваючы да той ступені, што сур'ёзныя, пажылыя шахцёры пішчаць і рагочуць, быццам малыя дзеці.

Парк мае адзін з найлепшых у свеце планетарыяў, у якім можна паглядзець таямніцы космасу, шэраг купальных басейнаў з падаграванай вадою і штучнай марской хваляй, цэнтр водных спортаў, заапарк са звыш 200 гатункамі звяроў, велізарны спартыўны стадыён, мініяцюрную чыгуначную лінію і падвесную чыгунку. Найважнейшыя аднак у парку звычайная свежая лясная зелень, ціхія зарослыя дзікім гушчаром дарожкі, ходзячы па якіх цяжка ўявіць, што знаходзімся ў цэнтры аграмаднага прамысловага комплексу.

Пакідаючы Шлёнск менш сумна гля-



**На міжнароднай выстаўцы кактусаў можна было ўбачыць найбольш дзіўныя сарты гэтай расліны зграмаджаныя з усяго свету.**



**Адной з найбольшых атракцый Катавіцкага парку культуры і адпачынку з'яўляецца падвесная чыгунка.**

дзеў я на будучую перспектыву «супергарадоў». Чалавек, які дасканала ўмее развязаць праблемы арганізацыі працы і прадукцыі прадметаў матэрыяльнага дастатку, зможа развязаць і праблемы goднага, вясёлага і шчаслівага адпачынку. І яшчэ адно: сталася мне ясным, чаму члены найвышэйшых нашых партыйных і дзяржаўных улад, таварышы Э. Герэк і Е. Зентэк прысвячаюць сваю ўвагу не толькі безупыннаму павышэнню прадукцыі, але і арганізаванню выставак кактусаў і ружаў, конкурсам канарэйкаў і г.д.

**Ул. Паўлючук**

**Фота аўтара**

## РЭПАРТАЖ З МІНУЛЫХ ДЗЁН

Рэпартаж з'яўляецца жанрам журналісцкай ці літаратурнай творчасці, у якім аўтар апісвае здарэнні, якіх сам з'яўляецца сведкай, апісвае здарэнні, праз прызму сваіх асабістых, індывідуальных назіранняў. Аб тым, што можа быць напісаны добры рэпартаж аб здарэннях, якія даўно мінулі, пераканацца можам з нядаўна выдадзенай кніжкі дасканалага кракаўскага рэпарцёра Ежы Лёвеля «Koniec chorału». Аўтар піша аб падзеях часоў акупацыі і пасляваеннага перыяду, расказваючы ўласціва аб уласных пошуках праўды тых трагічных падзей, аб сустрэчах і размовах з людзьмі, якія былі героямі і сведкамі падзей, пошуках дакументаў і адкрыванні фактаў, снуе ўласныя разважанні і рэфлексіі.

Большую частку кніжкі Лёвеля займаюць гістарычныя рэпартажы звязаныя з нацыянальнымі праблемамі. Датычаць яны перш за ўсё дзейнасці бандаў УПА на паўднёва-ўсходніх акраінах Польшчы і супрацоўнічаючай з фашысцкім акупантам банды Здзіслава Нуркевіча, дзейнічаючай на тэрыторыі Заходняй Беларусі. (п)

## БЕЛЬСКІ АДДЗЕЛ «ВІТАМІНЫ»

Агародніцкая спулдзельня «Вітаміна» арганізавала свой аддзел у Бельску дзевяць гадоў таму назад. Гэта дало пачатак арганізаванаму развіццю агародніцтва на тэрыторыі Бельшчыны і суседніх паветаў. Ліквідаванне выпадковасці і пераход да планавай дзейнасці прычынілася да папулярызацыі агародніцкіх культур у нашых вёсках. У сучасны момант Бельскі аддзел «Вітаміны» налічвае каля 1.700 членаў, у іх ліку 65 пчаляроў, што адпавядае пятай частцы ўсіх членаў у ваяводстве.

Бельскі аддзел мае добрыя магчымасці выйсці ў лік перадавых на Беласточчыне з увагі на досыць добрыя глебавыя і кліматычныя ўмовы, ураджайныя ваколіцы і адносна лагодныя тэмпературы. (ся)

# ЧАГО ПАТРАБУЮЦЬ ГРАМАДЗЯНЕ

Кандыдаты ў паслы і кандыдаты ў радныя, а таксама прадстаўнікі грамадскіх, павятовых і ваяводскіх выканаўчых органаў уважна прыслухоўваліся да патрабаванняў насельніцтва. Такім чынам сабралося разам 7810 прапаноў і патрабаванняў. Многа сярод іх удалося аформіць на месцы, проста «ад рукі». Такіх спраў назбіралася звыш 2800. Аднак знайшлося каля пяці тысяч прапаноў, якія патрабуюць больш разважлівага падыходу.

Найбольш выяўленых прапаноў і заўваг адносіцца да сельскай гаспадаркі, якая з'яўляецца, на жаль, асновай гаспадарчага жыцця Беласточчыны. І тут амаль ва ўсіх паветах гаварылася пра меліярацыю і загаспадараванне сенажацяў і паш, пра дрэнаж палёў, пра разбудову тэхнічнай базы сельскагаспадарчых гурткоў.

Для нашай беднай беластоцкай зямлі адзіны ратунак — гэта менавіта меліярацыя і пасляме́ліярацыйнае загаспадараванне лугоў, гэта дрэнаж палёў і інтэнсіфікацыя механічнай апрацоўкі зямлі. Відаць гаспадары Беласточчыны зразумелі гэта і слушна патрабуюць падтрымкі з боку сваіх прадстаўнікоў у органах улад.

Паслухайма далей. Чуем галасы, каб прыспешыць электрыфікацыю некаторых вёсак, каб ліквідаваць цераспалосіцу. Ізноў праяўляецца турбота за свае і адначасова за агульныя справы. Тут яшчэ дабавіць трэба патрабаванні сялян накіраваныя ў адрас устаноў і прадпрыемстваў адказных за вясковае будаўніцтва. Разыходзіцца пра тое, каб сяляне маглі без клопатаў і без хабару даставаць адпаведныя для іх планы будынкаў і будаўляныя матэрыялы.

Паявілася зусім новае патрабаванне. Жыхары вёсак хочуць мець у сябе водаправоды. Гэтае патрабаванне вынікае з новага, вышэйшага ўзроўню гаспадарчых суадносін у вёсках. Вада неабходна не толькі для гаспадара і яго сям'і. Без вады не абыдзецца перш за ўсё жывёла. Адну-дзве кароўкі можна напаіць вёдрамі. А калі ёсць іх 7—10? Ды і жыхар вёскі не хоча ўжо быць горшы ад жыхара горада.

Даволі многа прапаноў адносіцца да камунікацыі. Грамадзяне прапанавалі каб наладзіць новыя аўтобусныя лініі, а ўжо існуючыя прадоўжыць і ахапіць імі далейшыя вёскі. Гэту справу найчасцей спалучылі з рамонтам і кансервацыяй дарог і мастоў.

Крытыкавалі яны недахопы ў працы гандлю і бытавога абслугоўвання грамадзян. Гаварылі, што некаторыя крамы адкрыты ў неадпаведных для людзей працы гадзінах, што крамы бываюць неўласціва размешчаны, што ў іх не хапае асноўных прадуктаў, што на скупачных пунктах сяляне трацяць надта ж многа часу.

Дасталася крыху службе здароўя. Тут людзі прыводзілі прыклады неўласцівых адносін, асабліва з боку медсёстраў да пацыентаў. Прапанавалі, каб часцей паяўляліся ў вёсках пераездныя лекарскія амбулансы, каб лекары — знатныя спецыялісты сістэматычна наведалі пункты аховы здароўя і там прымалі людзей у вызначаныя дні. Настаўнікі і бацькі патрабавалі, каб прынамсі раз у год усе вучні праходзілі дакладны лекарскі агляд.

Грамадзяне Беластоцкага ваяводства асабліва турбаваліся за развіццё асветы. Гаварылі яны аб неабходнасці пабудовы новых школ, інтэрнатаў і дзіцячых садоў, аб арганізацыі новых сярэдніх школ, аб упарадкаванні і адпаведным загаспадараванні прышкольных пляцовак, аб забеспячэнні школ новымі навучальнымі дапаможнікамі. Настаўнікі і асветныя дзеячы даволі востра крытыкавалі абавязваючую зараз праграму навучання. Яны патрабавалі, каб як найхутчэй гэтая праграма была дастасавана да сучасных дыдактычных патрабаванняў і да задач па грамадска-палітычнаму выхаванню моладзі.

Вось некаторыя асноўныя тэмы гэтай вялікай гаспадарскай размовы грамадзян з прадстаўнікамі ўлады. Грамадзяне Беласточчыны не абмяжоўваюцца толькі да патрабаванняў. Яны, як правіла, выяўлялі сваю гатоўнасць да працы грамадскім чынам. З уступных падлікаў вынікае, што толькі ў час дабыбарчых сустрэч жыхары вёсак і пасёлкаў Беластоцкага ваяводства прынялі на сябе абавязацельствы, вартасць якіх сягае 35 мільёнаў злотых. Так вось у практыцы грамадскага жыцця ажыццяўляецца ў нас прынцып людаўладства.

**Віктар Рудчык**

Пачатак на стар. 1

# ДА ВАС, МАЛАДЫЯ

ках. Найперш пытаюць: адкуль вы, дзядзька? Хто вы такі? Ну, такі а такі, — кажу, —старэйшы чалавек. Э, кажуць, каб нехта з Бельска ці з Беластока. Ім, зразумела, не хочацца ўжо глядзець на свайго, вясковага. Бо я ж з вёскі, не з'яўляюся такім магістрам і красамоўцам. І што ж я магу ім сказаць, калі нават матэрыялу адпаведнага для дакладаў не хапае, аб чым вось ужо з гэтай трыбуны гаварылася. Хіба толькі запытаеш: як там у вас са складчынамі? Вось і ўсё. Як жа так? Да людзей трэба ехаць з падрыхтаваным матэрыялам.

Вы, дарагія дзеці, вы, пражываючы там у вёсках, не пашкадуйце аднаго, другога вечара, падрыхтуйце якое-небудзь прадстаўленне, з якім можна паехаць у суседнюю вёску — адну ці другую, дзе гуртка няма, а калі ёсць, дык ледзь-ледзь дыхае, і з музыкай і з песняй пастарайцеся ўзбудзіць нашую дзейнасць, наладзіць яе, арганізаваць гурток. І тады хіба гэтая наша беларуская арганізацыя разгорне сваю дзейнасць на поўную пару.

# Мастацкая самадзейнасць патрабуе дапамогі

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА ВАРШАЎСКАГА АДДЗЕЛА МІКАЛАЯ ІВАНЧУКА)**

Я хацеў бы выказаць некалькі заўваг адносна нашай мастацкай самадзейнасці. Калі я працаваў у Бельскім ад-



дзеле (зараз працую ў Варшаве), давялося мне сутыкнуцца з гурткамі мастацкай самадзейнасці. Ведаю тады, што нашы драмгурткі могуць, на жаль, лічыць толькі на ўласныя сілы. Даволі часта арганізуюцца ў нас новыя драматычныя гурткі, але праз месяц—два яны распадаюцца. Існуюць вельмі коратка. Чаму так ёсць? На гэта адказ даволі просты. Таму, што няма каму імі апекавацца. Няма каму паехаць у даны драмгурток, паглядзець, як ён працуе. Прыкладам можа быць драмгурток у Маліннiках, які існуе ад 1962 года. Там не было ніводнага спецыяліста, які памог бы наладзіць працу гэтаму гуртку, падрыхтаваць моладзь да выступленняў на сцэне.

А моладзь даведваецца, часта ўжо ў час аглядаў, што можна аднекуль атрымаць дапамогу. Даведваецца, як было апошнім разам, ад працаўнікоў Павятовага дома культуры, што яны ахвотна нам дапамогуць. Чаму ж не маглі мы даведацца пра гэта раней? Хіба таму, што ў Бельску канцылярыя аддзела БГКТ і ПДК знаходзяцца ў адным і тым жа самым пакоі!

Думаю, што добра было б, каб звярнуць большую ўвагу на агляды гурткоў мастацкай самадзейнасці. Каб гэтыя агляды не адбываліся толькі таму, што яны запланаваны, (калі ёсць у плане, дык трэба правесці). Трэба, каб яны выхоўвалі ўсіх мастакоў-аматараў, выхоўвалі асяроддзе, у якім самадзейнікі знаходзяцца. Думаю таксама, каб пасля кожнага агляду, так як гэта было ў Гайнаўцы, кіраўнікі драмгурткоў атрымалі адпаведныя накіраванні і заўвагі да пастаўленых п'ес. Ды і на гэтым аглядзе знайшліся ў камісіі розныя спецыялісты, але не было чалавека, які добра ведаў бы літаратурную беларускую мову, не было каму ацаніць, як моладзь валодае гэтай мовай. Думаю, што гэта таксама важнае. Трэба, каб праўленні больш цікавіліся працай драмгурткоў. Яны ж, так сказаць, маглі б стацца школай беларускасці ў нашых вёсках. Столькі аб драмгуртках.

А вось другая справа, якая мяне хвалюе. Часта ў нас гаворыцца аб супрацоўніцтве з маладзёжнымі арганізацыямі, з партыяй і т.д. У «Ніве» пісалі, каб гурткі БГКТ звярталіся за дапамогай да пярвічных партыйных арганізацый. А што мае зрабіць такі драмгурток, які звяртаецца да партыйнай арганізацыі, канкрэтна кажучы, да сакратара грамадскага камітэта, каб наладзіў супрацоўніцтва, каб супольна праводзіць розныя мерапрыемствы, і справа абмяжоўваецца толькі да абяцанняў. У драмгурток перш за ўсё згуртавана ў нас моладзь і яна патрабуе большай апекі, трэба звярнуць на яе большую ўвагу, трэба часам весці яе яшчэ за руку.

# Спяваць, хоць сто год

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТКІ ГАРАДОЦКАГА АДДЗЕЛА НІНЫ ЦЫВАНЮК)**

Дарагія сяброўкі і сябры. Тут некаторыя бедавалі, што няма матэрыялаў,



 

**На старонках чэрвеньскага нумара**

# ПОЛЫМЯ

Перш за ўсё — «Паэма пра зубра» Міколы Гусоўскага ў перакладзе Я. Семяжона. «Першая песня пра нас» — загаловак пасляслоўя перакладчыка. І некалькі радкоў з яго: «У гісторыі нацыянальных літаратур многіх раней прыгнечаных народаў вядомы такія выпадкі. Творы тых ці іншых пісьменнікаў, што з-за пэўных абставін не маглі быць напісаны на роднай мове народу, з якога выйшлі іх стваральнікі, станавіліся здабыткам культур іншых народаў. Не абышла гэтая доля і некаторых паэтаў пары позняга Адраджэння (XVI—XVII стагоддзі) — беларусаў па паходжанні, якія пісалі свае творы на агульнапрынятай у той час у адукаваных колах лацінскай мове... Так здарылася і з Міколам Гусоўскім — адным з буйнейшых славянскіх паэтаў эпохі позняга Адраджэння, які пакінуў сваю немалую літаратурную спадчыну на лацінскай мове. Каля чатырох з паловай стагоддзяў большая частка яго творчай спадчыны, у тым ліку і славутая паэма «Песня пра зубра», не перакладалася поўнасцю ні на рускую, ні на беларускую мовы і фактычна заставалася невядомай нашаму чытачу. А між тым «Песня пра зубра» здаўна была вядома літаратуразнаўцам — лацiністам большасці еўрапейскіх краін і атрымала іх самую высокую ацэнку».

Ад сябе скажам: паэма, як і пасляслоўе перакладчыка — дасканалы матэрыял для паглыблення ведаў з роднай літаратуры (увага, настаўнікі!).

Цікавы таксама нарыс (па мастацкіх якасцях заслугоўвае вышэйшага рангу) Янкі Сіпакава «Акно, расчыненае ў зіму». З любоўю паказана родная вёска, яе жыхары і звычкі.

Шмат карысных ведаў можна пачэрпнуць з крытычнага артыкула Уладзіміра Калесніка «Адчараваныя скарбы» (у сувязі з выхадам першага тома «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры»). Такі ж і артыкул Леаніда Падгайскага «Жывая спадчына» (пра мову Максіма Гарэцкага (увага, «белавежцы»!).

Часопіс друкуе працяг «Матэрыялаў да слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў» Міхася Клышкі і мовазнаўчы матэрыял Фёдара Янкоўскага «Да этымалогіі беларускіх фразеалагізмаў».

Даведваемся таксама пра выдаўца Купалаўскіх твораў А. Ярэміча і забытага беларускага паэта Лявона Лобіка.

Проза нумара прадстаўлена аповесцю Наталлі Кедалавай «Вольчын двор» (аб жыцці вясковай настаўніцы) і апавяданнямі Івана Навуменкі, Яўгена Васілёнка і Леаніда Гаўрылкіна. Паэты прадстаўлены вершамі Анатоля Белавуса, Алеся Бачылы і Аляксея Пысіна.

Ювэ

## МАЛЫЯ І ВЯЛІКІЯ АПАВЯДАННІ С. ЯНОВІЧА

Прачытаў я нядаўна выдадзеную Галоўным праўленнем БГКТ кніжку Сактара Яновіча — «Загоны». Па-сучаснаму зроблена вокладка, вялікі фармат ужо бачна адрозніваe «Загоны» добрым чынам ад папярэдніх выданняў Беларускага таварыства, афармленне якіх грашыла цукеркавай народнасцю і проста нестаранлівасцю. Пакуль, гэта кампліменты мастаку Аляксандру Хомчыку.

Затым спяшаем заглянуць у кніжку, ці на падобныя пахвалы заслугоўвае аўтар. Што да формы, дык ужо ў прадмове зазначана, што С. Яновіч у сваёй дэбютанцкай кніжцы прадставіў апавяданні. Трэба сказаць, што неаднолькавы яны не толькі па аб'ёму, але і па сіле мастацкага выражэння, іх літаратурных вартасцях. Агульна кажучы, спадабаліся найбольш тыя малыя, як бы мы назвалі згодна з сучаснай модай, «міні-апавяданні». У роўнай меры можна б назваць іх таксама маленькімі паэмамі або літаратурнымі мініяцюрамі, імпрэсіямі, напісанымі рытмізаванай прозай. Іх варыяцыі розныя — ад кінутых на паперу некалькіх радкоў, у якіх, нібы на карцінах сучасных мастакоў, дзе мэтанакіраваная дэфармацыя, спрашчэнне, відаць вялікую ўражлівасць літаратурнага таленту С. Яновіча, ягоную здольнасць бачыць значныя справы, здольнасць пастаноўкі праблемаў гэтаксама значных у дачыненні да жыцця цяперашняга чалавека. Іх кантынуацыяй і творчым развіццём з'яўляюцца большыя апавяданні з простай, але сурова ды часта драматычна замаляваным сюжэтам — пісьменніцкім анекдотам, шматзначнай пуэнтай, якая прымушае да рэфлексій, задумлёнасці. Усё гэта выказана скромнымі, амаль скупымі сродкамі мастацкага выразу, у чым шмат вобразаў і мінімум адаўтарскага каментарыя.

Не менш каштоўнымі лічу сатырычныя творы, якія аж іскрацца народным гумарам і жамчужынамі беларускай мовы цудоўнай.

У даным выпадку найпрасцей працытаваць пробы тых міні-апавяданняў, што з увагі на іх малыя памеры цалкам магчымае. Смакаванне гэтых найменшых пладоў Яновічавых «Загонаў» пакіньма чытачу. У іх шмат ...«святла, блакіту і прасторы»... там «акно пахне смажанай бульбай і свежым малаком». І ўспамінаў з «глыбі дзяцінства», калі: «Быў у мяне вечар вясёлы, вечар імглісты, калі пад стрэхамі загуменняў Сакольскай вуліцы лавіў сонных верабʼёў. Ад поля нядобра глядзеў смутак»... Вось два сказы, узятыя з твора «Увечары на Сакольскай», адзінаццацірадковага. Яны паказваюць, уласна кажучы, увесь стыль Яновічавага пісьменства, ягоны спосаб бачання свету, што наймацней адчувальнае па-мойму таксама ў такіх творах, як: «Свята ў 1945-ым», «Салют», «Шпацыр па новай перыферыі», «Нешчаслівы выпадак», «У першы дзень Велікодных свят», «Памяць», «Восеньскае сонца», «Як Крынкі Саколку абулі» і інш. Скупымі сродкамі замаляваны багатыя вобразы, перадана ў згушчаным выглядзе сапраўдную атмасферу, настрой, у якім адбываецца, менавіта адбываецца драматычны лёс




герояў, шукаючых адказу на заўсёды актуальнае пытанне: «як, як жыць, якой цаною»?

Нельга паўстрымацца ад спробы інтэрпрэтацыі аднаго з твораў. Натуральна, гэтае нашае расталкоўванне і разуменне Яновіча не мае прэтэнзіі на ўніверсальнасць. Лічу, што кожны чытач знойдзе ў іх сябе, свае перажыванні, зразумее ўсё па-свойму, але ж у тым і ўся справа! Возьмем для прыкладу апавяданне «У першы дзень Велікодных свят». З выгляду здавалася б, гэта банальная любоўная гісторыя: «Вера пакінула мяне ў першы дзень Велікодных свят». Усё адбылося без асаблівай трагедыі. Аднак жа звычайныя сказы: «Я правяду цябе да аўтобуса», «Пачакаем на таксі», у кантэксце, дзе апісана звычайная вуліца, звычайныя вулічныя сцэны, хлопец з дзяўчынаю поўныя радасці, вясёлыя, усё тое набывае значэння і важнасці, што не здзіўляемся, што: «І стала ненармальна пуста. На аўтобусавым вакзале, куды я прыйшоў з Вераю, гусцела цішыня. Бялелі твары людзей, уцалелых у невядомай катастрофе, ашаломленых тым, што яны яшчэ штосьці бачаць»... Гэтыя згушчаныя, надта інтэнсіўныя вобразы іграюць цэлай гамай значэнняў. З'яўляюцца яны праўдзівымі ды псіхалагічна абгрунтаванымі. У кароткім апавяданні аўтар змясціў усё: і смутак расстання, неабходнасць выбару, адвечнае мінанне свету, смерць і нарадзіны.

У кніжцы Сакрата Яновіча памятаецца яшчэ адзін раздзел. Гэта: «Дзядзькавы соннік». Такія творы, як — «Удача», «Справядлівы кум», «Як я стаў лысым» могуць паслужыць узорам творчага пераўтварэння народных аповесцей, апавяданняў пра сучаснае жыццё, болі і радасці. Прытым, вылучаюцца яны майстэрскім выкарыстаннем багаццяў мовы беларускага люду, ідыёмаў, прымавак, словазлучэнняў, вобразнасці слоў. Стольки пра малыя Яновічавы апавяданні. Вядома, не ўсе яны аднолькавай вартасці ды значнасці. У многіх ударае залішні сентыменталізм, абсесійны сентыменталізм, па тым, што вёска ўжо не тая, вобраз якой вынес з глыбі дзяцінства — і часта досыць банальныя філасофскія абагульненні.

Адносна большых апавяданняў С. Яновіча, дык найбольш удачлівым, хаця таксама не вольнай ад тых сентыменталізмаў, банальных філасофскіх абагульненняў, стылістычных расцяглацсей, выдаецца «Таня» — званая аповесцю. Рэч пра вырастанне маладога, амбітнага, вясковага хлопца; пра першае каханне і драматычныя сутыкненні, якія перажыў кожны з нас; адарванне ад родных парогаў, пераход у самастойнае жыццё, паглыбленне ў космас горада.

Зусім іначай трэба падыйсці да апавядання «Скарбы ў Яцвяжскай пушчы». Яно прыдатнае якраз у гарцэрскі часопіс «Свят млодых». Ёсць тут і таемнае пісьмо, пошукі скарбу, таямнічыя працўнікі, словам — інтрыгуючая канікульная прыгода малагодкаў, дзе ўсё добра канчаецца. Шмат пазнавальных ды выхаваўчых вартасцей.

Аднак жа найбольш спадабаліся малыя апавяданні Яновіча, якія можна назваць найбольшым мастацкім дасягненнем. Хацелася б тут сказаць Яновічу, каб яшчэ парадаваў нас тымі «вершамі прозай», «хвілінамі задумённасці», «пра найважнейшае»...

**Збігнеў Насядка**



Сустрэча спадабалася.

## У МІХАЛОЎСКІМ ЛІЦЭІ

17 чэрвеня ў міхалоўскім агульнаадукацыйным ліцэі адбылася сустрэча вучняў ліцэя з беластоцкімі літаратарамі: нашым рэдакцыйным калегаю Сакратам Яновічам — аўтарам кніжкі «Загоны» і Эдвардам Рэдлінскім — аўтарам кніжак «Listy z Rabarbaru», «Ja w nerwowej sprawie». Сустрэча адбылася ў надзвычай прыемнай, поўнай гумару і жартаў атмасферы. Сябра Сакрат Яновіч прачытаў некалькі сваіх лірычных твораў, сябра Эдвард Рэдлінскі расказаў аб узнікненні кніжкі «Listy z Rabarbaru» і прачытаў шэраг твораў гумарыстычнага зместу, пісаных у форме лістаў з вёскі.

(п)

## Усім аддзелам роўнае зацікаўленне

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА БЕЛАСТОЦКАГА АДДЗЕЛА ВАСІЛЯ БАРШЧЭЎСКАГА)**

Хацеў бы сказаць некалькі крытычных слоў у адрас Галоўнага праўлення, членам якога з'яўляюся я сам, у адрас Прэзідыума ГП. Мне выдаецца, што дагэтуляшняя праца сведчыць аб тым, што Галоўнае праўленне, а перш за ўсё Прэзідыум Галоўнага праўлення моцна адарваліся ад жыцця асноўных мас нашага таварыства. Ці можа працаваць добра Прэзідыум Галоўнага праўлення, калі ён ведае працу толькі са справаздач інструктараў паасобных аддзелаў?

Зразумела, мы вельмі цешымся тым, што добра дзейнічае таварыства на Гайнаўшчыне і Бельшчыне. Але ці Гайнаўшчына і Бельшчына — гэта толькі база нашага дзеяння? А дзе паветы Саколка і Беласток? Даходзіла проста да нейкіх анамалей. Вось на Беластоцкі павет вызначалася адказным члена Прэзідыума таварыша Майсеню, які працаваў і жыў на Гайнаўшчыне. Ці з Беластоцкага павета не мог бы хтосьці быць членам Прэзідыума і таксама ўздзейнічаць на гэты павет, як на іншыя паветы?

Разыходзіцца пра тое, каб не выдзяляць паасобных паветаў, каб наша праца развівалася раўнамерна ўсюды там, дзе ёсць наша база.

Зразумела, хвалім Гайнаўшчыну за яе ініцыятыву, хвалім за тое, што там многа гурткоў і так далей. Я таксама вельмі люблю Гайнаўшчыну. Але запытаймa, што Гайнаўшчына дала таварыству, што нам паказала і так далей? А вось Гарадок, у гэтым павеце, дзе найслабей развіваецца праца, паказаў усё ж такі, што ён можа штосьці цікавага сарганізаваць, што можа ў хуткім часе стаць на ногі і так далей. Доказам гэтага — агляд калектываў нацыянальных меншасцей.

Калі ад нас адыходзяць маладыя, здольныя людзі і працягваюць сваю дзейнасць у іншых таварыствах, дык гэта абазначае, што ў нас штосьці дзеецца нядобрае, што мы не патрапілі іх прыцягнуць і ўтрымаць. Трэба тады задумацца, чаму так дзеецца. Спадзяваюся, што новае праўленне сур'ёзна разгледзіць гэтую справу і пастaвіць працу таварыства на адпаведнім узроўні.

Пару слоў яшчэ пра беларускую інтэлігенцыю. З кожным годам у гэтым памяшканні ўсё менш бачым людзей з нашай беларускай інтэлігенцыі. Таксама трэба падумаць, чаму так ёсць. Спачатку ўсе да нас неяк гарнуліся, а цяпер — не. А можа мы цягнемся ў хвасце ўсіх гэтых падзей, якімі жыве наша краіна, можа мы не патрапім паспець за гэтай шпаркасцю, за бурлівасцю жыцця і станемся нечым архаічным?

Праз два гады не выкарыстана ў нас два інструктарскія штаты. Яны ж у многім памаглі б паасобным аддзелам і гурткам. Гэта проста сабатаж, каб на так добраплатныя пасады не можна было на працягу так доўгага часу знайсці людзей!




У нас на Беласточчыне нацыянальных меншасцей некалькі: руская, украінская, літоўская. І што мы пра сябе ўзаемна ведаем? Ідэя наша супольная. Усе мы працуем у рамах Фронту адзінства народа пад кіраўніцтвам ПАРП. Але што мы ведаем аб дасягненнях, напрыклад, літоўцаў ці ўкраінцаў? Разыходзіцца пра тое, каб нашыя людзі, нашыя актывісты, нашыя калектывы аматарскага руху паказвалі адны другім свае дасягненні. Я за тым, таварышы, каб так працаваць, каб адны другіх больш пазналі.

на якіх можна было б вучыцца і спяваць. Вы прыедзьце да нас, мы вам дамо — толькі вучыцеся і спявайце! Так што не хачу я верыць у тое, што для распаўсюджвання нашай беларускай культуры няма матэрыялаў. Мы можам спяваць хаця б сто год, толькі каб нам хацелася!

Хачу таксама падтрымаць выказванні таварыша сакратара Ваяводскага камітэта партыі адносна таго, ці сапраўды ёсць сэнс трымаць штатных 8 людзей з эстрады «Лявоніха», ці не лепш было б гэтыя штаты прызначыць на інструктараў.



Чвэрць стагоддзя назад

# МІНСКІ ЦУД

У выніку беларускай аперацыі 3 ліпеня 1944 года быў вызвалены Мінск — сталіца Савецкай Беларусі. 900-гадовы горад ужо ў першыя дні вайны перажыў сваю трагедыю. Фашысцкія самалёты скінулі на Мінск тысячы тон смертаноснага грузу. Горад быў ператвораны ў руіны. З 332 дзяржаўных і кааператыўных прамысловых прадпрыемстваў ацалела толькі 19. Акупанты нанеслі велізарныя страты жыллёва-камунальнай гаспадарцы горада, разбурылі і спалілі амаль усе будынкі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, школ, музеяў, бібліятэк, клубаў, бальніц і паліклінік.

Але Мінск жыў і змагаўся. Змагаўся самаахвярна і штогадзінна. Пад кіраўніцтвам падпольных партыйных камітэтаў гераічныя мінскія падпольшчыкі не давалі гітлераўцам ні хвіліны спакою.

Калі Савецкая Армія вызваліла Мінск, горада па сутнасці не было. На месцы былых дамоў ляжалі руіны і папялішчы, плошчы зараслі быльнягом. Здавалася, што спатрэбяцца многія дзесяткі гадоў, каб аднавіць разбураную гарадскую гаспадарку, каб Мінск зноў зажыў паўнакроўным жыццём. Самаадданая праца мінчан, братняя дружба і дапамога савецкіх народаў зрабілі цуд: мінула зусім няшмат часу, і Мінск, нібы тая казачная птушка Фенікс, паўстаў з папялішчаў і руін, паўстаў яшчэ прыгажэйшы і маладзейшы, чым быў.

Даваенны Мінск меў 1070 тысяч квадратных метраў жылля. Сёння ў Мінску жылля каля 6 мільёнаў квадратных метраў. Цяпер за 2—2,5 года па аб'ёму жылля ўзводзіцца, па сутнасці, даваенны Мінск. Альбо вось яшчэ прыклад. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску жыло 270 тысяч чалавек. У 1944 годзе ў вызваленым горадзе заставалася каля 50 тысяч жыхароў. А сёння насельніцтва беларускай сталіцы — больш чым 840 тысяч чалавек.



Асновай такога бурнага развіцця горада стаў імклівы рост прамысловай вытворчасці. У СССР не вельмі многа гарадоў, у якіх бы адначасова выпускаліся аўтамабілі і трактары, складаныя прыборы і шматлікія высокадакладныя станкі, гадзіннікі і матацыклы, фотаапараты і веласіпеды, радыёлы і тэлевізары. Адным з такіх гарадоў з'яўляецца Мінск. Агульны аб'ём прамысловай прадукцыі горада ў 25 разоў перавышае ўзровень 1940 года, пры гэтым асабліва трэба падкрэсліць, што колькасць людзей, занятых ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, узрасла толькі ў 4 разы. Цяпер прадпрыемствы горада за некалькі тыдняў выпускаюць столькі прадукцыі, колькі яе выпускалася ў даваенным Мінску за цэлы год.

Новы генеральны план рэканструкцыі і развіцця сталіцы рэспублікі на перыяд да 1980 года прадбачвае, што колькасць насельніцтва Мінска да канца разліковага перыяду дасягне прыблізна 1,2 мільёна чалавек. Акрамя гэтага, паблізу горада будзе жыць каля 200 тысяч чалавек.

(З артыкула старшыні выканкома Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, апублікаванага ў чэрвеньскім нумары «Полымя» г.г.).

**Мінск. Дом урада. Лінагравюра Р. Віткоўскага.**

Лекар прырода

### КМЕН

Гэту расліну гаспадыні ўжываюць як духмяную прыправу для прыгатавання многіх страў.

У медыцыне выкарыстоўваюць плады кмену. Яны ўтрымліваюць у сабе 6 працэнтаў эфірнага масла, бялковыя і дубільныя рэчывы, флаваніды.

Прэпараты з кмену ўжываюцца ў медыцыне пры атаніі, метэарызме.

У народнай медыцыне здвар пладоў кмену п'юць пры захворванні страўніка, гастрыце, паніжанай кіслотнасці, малакроўі.

Маці, якія кормяць грудное дзіця, п'юць гэты адвар для павелічэння колькасці малака.



КУЛІНАРЫЯ

● Зялёны гарошак пры гатаванні захавае свой натуральны колер, калі ў яго дадаць крыху цукровага пяску. Струкі гароху і фасолі застануцца зялёнымі, калі іх гатаваць у падсоленай вадзе, якая моцна кіпіць.

● Печаную бульбу можна атрымаць і на газавай пліце. Вазьміце металічную тарку, уваткніце ў адтуліны на адлегласці 4—5 см адзін ад аднаго клінкі з цвёрдай пароды дрэва. На гэтыя «шыпы» накаліце некалькі бульбін і пастаўце тарку ў нагрэтую духоўку. Праз 30—40 хвілін бульба будзе гатова.




## НОВЫ ФІЛМ ПРА САВЕЦКУЮ РАЗВЕДКУ

«МЁРТВЫ СЕЗОН» — сенсацыйны савецкі фільм пра дзейнасць савецкай разведкі ў мірны час. Акцыя збудавана на сапраўдных здарэннях.

Фільм пачынаецца словам аса савецкай разведкі палкоўніка **Рудольфа Абеля.** Ён гаворыць з экрана: «вы напэўна чыталі ў газетах, што ў некаторых капіталістычных краінах праводзяцца доследы над выкарыстаннем бактэрыялагічных і хімічных сродкаў вайны. Гэтыя сродкі асабліва страшныя, яны паражаюць людскую псіхіку і нішчаць нервовую сістэму. У англійскім горадзе Портан, у канадыйскім Сафільд працуюць лабараторыі, дзе перахоўваюцца заразкі найстрашнейшых эпідэмій, якія калі-небудзь ведаў свет. У час вайны я спаткаўся з адным немцам, лекарам, загарэлым фашыстам. Ён цынічна цвердзіў, што трэба знішчыць усіх непаўнавартасных людзей, каб ачысціць людскі род. Гэтакія шалёныя ідэі не загінулі разам з гітлераўскай Германіяй. У ЗША я спаткаў аднаго амерыканскага афіцэра, з форта Датрык. Там існуе вайсковая хімічная лабараторыя. Афіцэр выказаў такія ж думкі.

Кожны раз, як такія людзі маюць у сваіх руках страшныя сродкі знішчэння, узнікае праблема, каб выявіць іх планы, паказаць намеры, каб пазбегнуць катастрофы.

Для такой ідэі працаваў мой калега **Рыхард Зорге** і тыя мае калегі, пра якіх фільм расказвае. Не пададзена тут назва краіны. Зменены прозвішчы, імёны герояў, але канва фільма сапраўдная, як сапраўднай з'яўляецца барацьба, якую вядзем мы — людзі, якія хочуць не дапусціць да вайны».



**Данатас Баніёніс у ролі разведчыка Ладзейнікава ў фільме «Мёртвы сезон».**

**А вось кароткі змест гэтага цікавага фільма.**

У малым курортным гарадку адной з капіталістычных краін працуе пад прозвішчам праф. Борна гітлераўскі ваенны злачынца др Гас. У замаскаванай фармакалагічнай лабараторыі ён канчае доследы над грозным газам RH. Невялікая колькасць гэтага газу змяняе людзей у бязвольныя робаты, гатовыя выконваць кожны загад сваіх паноў.

На след дра Гаса трапляе савецкі разведчык Ладзейнікаў. Контрразведка ідзе яму па пятках. Ладзейнікаў у такім выпадку павінен выехаць, але ён не хоча адступіць. Змяняе дакументы і пачынае жыць у гарадку. Не ведае, аднак, твару Гаса. Маскоўская цэнтраля ідзе яму з дапамогай, прысылае чалавека, які ў час вайны, будучы ў палоне, бачыў злачынцу. Гэты чалавек, які дагэтуль не меў аніякага дачынення з разведкай, акцёр Савушкін, пасля многіх небяспечных здарэнняў, пазнае Гаса, сам пры гэтым амаль не гіне. Ратуе яго Ладзейнікаў. Партфель з дакументацыяй RH знойдзецца ў Маскве і свет даведаецца пра ўсё. Толькі савецкі разведчык трапляе ў рукі ворага. Асуджаны на 25 год турмы. Пасля 3 год, у якія вораг намаўляе яго да здрады, вымяньваюць яго ўрэшце на злоўленага ў СССР шпіёна палкоўніка Ніхальса.

(вл)

АЛЯКСАНДРА УС, АЛЕНА УЛАДЗІМІРАВА




### ПАД НОСАМ У СД

...Яшчэ ніхто, ніколі не бачыў прафесара такім узрушаным. У калідоры на тапчане ляжала дзяўчына-партызанка, яе толькі што прывезлі ў бальніцу гестапаўцы. Пэўна, штосьці вельмі важнае спадзяваліся выведаць у яе, бо строга загадалі ўрачам: вылечыць! І паехалі... Дзяўчына была непрытомная, на светлых валасах запяклася кроў, хрыбет пераломаны, рукі і ногі перабітыя, усё цела ў кровападцёках...

— Зайдзіце да мяне, Ганна Гаўрылаўна, — сказаў да Навіцкай прафесар. — Зараз жа, калі ласка... — І ўжо ў кабінеце: — Гэтую дзяўчыну мы павінны выратаваць, Ганна Гаўрылаўна. Яе трэба перадаць партызанам. Разумееце?

Назаўтра ён зноў паклікаў да сябе ў кабінет Ганну Гаўрылаўну. Там сядзелі два незнаёмыя хлопцы.

— Пазнаёмцеся, Ганна Гаўрылаўна. І дамаўляйцеся, як і што.

...Роўна ў 4 гадзіны да бальнічнай брамы падышлі два «немцы» ў гестапаўскай форме. Адзін з іх размаўляў па-нямецку, як і належыць, другі маўчаў. Ля брамы іх сустрэла Навіцкая і павяла да хворай. Паклалі дзяўчыну на насілкі і панеслі. А там, за брамай, чакала ўжо машына.

Праз паўгадзіны наляцела СД — як толькі яны размінуліся!

— Дзе партызанка?

Схапілі Навіцкую, білі рэвальверам па галаве, ставілі да сценкі.

— Адкуль я ведаю? Прыехалі двое вашых, размаўлялі па-нямецку, забралі і павезлі.

Афіцэр яшчэ раз пхнуў Навіцкую ботам, вылаяўся і кінуўся разам з салдатамі даганяць машыну.

...Прафесар Клумаў падышоў да Навіцкай, дапамог устаць, супакоіў:

— Нічога, галубка, нічога. Мы з вамі сваю справу зрабілі.

У кабінеце прафесара сядзеў высокі цёмнавалосы чалавек.

— Пазнаёмцеся, Ганна Гаўрылаўна.

— Лёня, — назваў сябе чалавек.

— Добра запомніце яго ў твар. Заўтра на Камароўцы вам трэба будзе сустрэцца.

...Клумаў ніколі не дазваляў сваім сувязным выносіць адразу памногу медыкаментаў.

— Пападзешся, што тады скажаш? Калі няшмат, іншая справа. Маўляў, для сябе ўзяла.

Але тут, пэўна, было нешта вельмі тэрміновае і неадкладнае, бо назаўтра Яўген Уладзіміравіч напакаваў цэлы кошык медыкаментаў, паклаў туды інструменты і марлю.

— Вось, галубка, гэта для Лёні. Ідзіце і... каб усё вам было добра!

Ён вельмі хваляваўся гэты раз за сваю сувязную, і нездарма. Праз бальнічны двор прайшла спакойна: тут прывыклі, што Ганна Гаўрылаўна насіла на стэрылізацыю біксы, і ніхто на яе не звярнуў увагі. Затое ля Камароўкі міма прайшла жанчына і ціхенька сказала:

— Не хадзі туды. Там аблава.

«Не хадзі»... А Лёня ж, пэўна, чакае, рызыкуе жыццём! Ды і прафесар сустрэне, спытае: «Як, галубка? Усё ў парадку?» Што яна адкажа яму? Спалохалася, уцякла? І куды з гэтым кошыкам дзецца — назад, у бальніцу, нельга, дадому таксама... А на Камароўку ісці цяпер — значыць, галаву ў пастку сунуць.

...Пайшла ў руіны, гадзіну-другую пасядзела на каменні — і зноў на Камароўку.

Як цень, з нейкага закутка выйшаў «Лёня». Лёгка, як пушынку, узяў з яе рук цяжкі кошык, сказаў на развітанне:

— Перадайце прафесару дзякуй. І вам дзякуй... — І яшчэ: — Дзе сустрэнемся ў наступны раз?

Другі раз яны сустрэліся на Балотнай станцыі, у драўляным доміку на водшыбе. Трэці — недзе ў раёне Чэрвеньскага рынку.

Ёд, марлю, бінты і нават аднойчы літр чыстай гліцэрыны — змазваць зброю — прынесла з бальніцы і перадала «Лёню» Ганна Гаўрылаўна Навіцкая. Ад прафесара Клумава.

...«Лёня» — гэта быў сакратар Узденскага падпольнага райкома партыі Лазар Рыгоравіч Бальшоў — «Валгар». Яго пазнаёміла з Клумавым «Белка» — Кашычкіна.

...Так стварыўся першы партызанскі шпіталь.

Чэрвень, 1942 года... «Зброю! Памажыце здабыць зброю!» — усё больш і больш настойліва патрабавалі ад падпольнага гаркома партыі сувязныя з лесу. Па заданні гаркома трое былых раненых ваеннапалонных, якіх выратавала ад лагера Ганна Навіцкая, — Сцяпан Бойка, Аляксей Якавенка і Сяргей Шаўчэнка — уладкоўваюцца на нямецкі ваенны склад.

«Сёння ноччу вынесем зброю! — перадалі яны падпольнаму гаркому. — Арганізуйце прыём!»

«Гэта даручаецца вам», — зноў атрымала заданне «Белка».

...Позняя ноч. Даўно ўжо мінуў камендацкі час. І хадзіць, нават проста

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### МІХАЛОЎСКАЯ ПОШТА

Пошта ў Міхалове адносіцца да перадавых у Беластоцкім павеце. Многа тут дыпломаў і флажкоў, якія гавораць аб добрай працы пошты. А дасягненні мае пошта перш за ўсё таму, што добрым арганізатарам працы з'яўляецца кіраўнік пошты Станіслаў Урвановіч. Ён увёў тут творчую атмасферу і добрае супрацоўніцтва паміж працаўнікамі.

**А. В.**
Крыніца

### ТЭЛЕБАЧАННЕ Ў ЛІЦЭІ

16-га чэрвеня бельскі беларускі агульнаадукацыйны ліцэй наведалі працаўнікі варшаўскага тэлебачання. Яны зрабілі здымкі з некаторых заняткаў, а таксама найгралі некалькі песень нашага школьнага хору. Цяпер усе вучні з нецярплівасцю чакаюць паведамлення, калі будзе тэлевізійная перадача, у якой яны выступаюць.

**Вера Ахрымюк**
Падбаравіска

### ПАРТВУЧОБА

Павятовы камітэт ПАРП у Бельску Падляшскім у большых прадпрыемствах і ўстановах арганізуе заняткі прысвечаныя галоўным праблемам II пленума ЦК ПАРП і заданням, якія з яго вынікаюць.

**М. М.**
Бельск Падляшскі

### ТАЛЕНТЫ

Калі вы хочаце пачуць на вёсцы прыгожы спеў, дык едзьце ў Градалі ў Бельскім павеце. Там, як збяруцца каля чые-небудзь хаты старэйшыя жанчыны, як запяюць свае мясцовыя песні, дык аж на сэрцы радасней. Раней існаваў тут хор, які славіўся на Бельшчыне і па-за Бельшчынай. А пасля ён распаўся. А шкада.

**С.С.**
Градалі

### ГАЙНАЎКА



**Блёкі на вуліцы 1-га Мая.**
**Фота: Янка Цялушэцкі**

### ВЕСТКІ З КРЫВЯЦІЧ

Апошнім часам у Крывяцічах адбыўся сход праўлення гуртка БГКТ, ЛьЗС і ЗМВ. Мэтай супольнай нарады было развіццё культурнай дзейнасці ў Крывяцічах. Члены праўлення гуртка БГКТ выступілі з прапановай, каб «адмаладзіць» гурток БГКТ. Гэта значыць скрэсліць тых, хто не праяўляе аніякай актыўнасці і тых, хто не аплочвае членскіх складчын. Адначасова будуць прыняты ў члены БГКТ іншыя маладыя людзі, якія цікавяцца нашай працай і могуць быць добрымі самадзейнікамі будучага нашага драмгуртка.

### ДЛЯ АГУЛЬНАГА ДАБРА

Вельмі вынаходліва развязана ў нашай вёсцы барацьба з пустазеллем. Спецыяльныя машыны-агрэгаты апыльваюць палеткі сялян хімічнымі сродкамі, што пасадзейнічае павышэнню ўраджаю і зменшыць цяжкую працу сялян.

**Ваня Кірызюк**
Крывяцічы




**Дарагое Сэрцайка!**

Вучуся я ў сярэдняй школе. З'яўляюся адным з лепшых вучняў нашага класа. У гэтай школе (толькі ў іншым класе) вучыцца дзяўчына, якая мне спадабалася. Што зрабіць, Сэрцайка, каб Ірка звярнула на мяне ўвагу. Мо ёй проста сказаць, што яе кахаю, але як гэта зрабіць? Мо аб гэтым напісаць у пісьме і паслаць Ірцы?

Парай. За параду буду вельмі ўдзячны.

**Ваня**
з Гайнаўшчыны

Ваня! Пісаць у пісьме — у ніякім выпадку. Гэта вельмі ўстарэлая форма прызнання ў каханні. Ужо канікулы і ты не будзеш бачыць Ірку, бо яна выедзе. Пачакай. Міне два месяцы, дык хто ведае, мо ўжо не будзе патрэбы прызнавацца Ірцы ў каханні. У тваіх гадах, Ваня, усяляк бывае. Аднак калі ўжо тваё каханне не міне, дык старайся знаходзіцца ў школе з тымі сябрамі і сяброўкамі, з якімі знаходзіцца Ірка. Аказіі да навязання кантактаў у школе вельмі ж многа: экскурсіі, школьныя забавы, спорт, праца ў маладзёжных арганізацыях, грамадская, пазалекцыйная праца і т.п. А каб звярнуць увагу дзяўчыны, трэба аднак прыкладна сябе паводзіць, быць вясёлым, ганарыстым (у меру), інтэлігентным. Тады не толькі Ірка, а і іншыя дзяўчаты звернуць на цябе ўвагу.

**Жадаю поспехаў**
**Сэрцайка**

### НІ ТО ВЁСКА, НІ МЯСТЭЧКА

Крынкі пасля другой сусветнай вайны страцілі правы горада. Перад вайной налічвалася тут 8 тысяч чалавек. Палова гэтага насельніцтва была рабочымі, якія працавалі ў існуючых тут 49 невялікіх прыватных гарбарнях і іншых таксама невялікіх прадпрыемствах.

Вайна знішчыла Крынкі страшэнна. Немцы вымардавалі тут мноства людзей, зруйнавалі будынкі. Зараз жыве ў Крынках каля 3-х тысяч чалавек. У прадпрыемствах працуе тут пакуль што толькі 250 чалавек.

Як раней, так і цяпер многія жыхары Крынак займаюцца земляробствам.

Зараз налічваецца 625 гаспадароў. У асноўным дробныя гэта гаспадаркі. 250 гаспадарак не перавышае 2 га зямельных угоддзяў, а 198 гаспадарак маюць ад 2 да 5 га.

Усе гэтыя гаспадаркі не з'яўляюцца эканамічна незалежнымі. Іх уласнікі і члены сем'яў шукаюць дадатковых заробкаў па-за сельскай гаспадаркай. А калі разыходзіцца аб сельскую гаспадарку, дык тут у асноўным зямля апрацоўваецца машынамі. 345 гаспадароў не маюць коней. І вось яны карыстаюцца машынамі (а найбольш трактарамі крынкаўскага сельскагаспадарчага цэнтра.

Напрыклад, 7 трактараў цэнтра ў 1968 годзе апрача працы ў цэнтры 3406 гадзін працавалі на аднаасобніцкіх гаспадарках.

М. С.
Крынкі

### НАЙПРЫГАЖЭЙШАЯ Ў ВЁСЦЫ

Найпрыгажэйшая хата ў Плёсках у Івана Гаўрылюка. Выгляд у яе проста гарадскі. Вельмі прыгожа ў хаце. Цікаўнасць выклікаюць краны водаправода. Іван Гаўрылюк правёў спецыяльныя помпы ў калодзеж, якія падаюць ваду ў хатнія бакі.

Гэты гаспадар мае таксама тэлевізар, сельскагаспадарчыя машыны і іншыя сучасныя прылады.

У яго вельмі прыгожая таксама, ад вуліцы, агароджа сядзібы. Жалезная брамка і вароты прыгожа памаляваны. Адным словам відаць, што тут культурна і заможна жывецца.

М. М.
Плёскі

### ДАПАМОГА СВЯТЛІЦАМ

Спулдзельчае аб'яднанне саматужнікаў і народных вытворцаў дапаможа развіваць культурна-асветную дзейнасць на вёсках, у якіх жывуць іх вытворцы. І так, у мінулым годзе ў вёсцы Якубоўскае правяло яно рамонт святліцы і купіла патрэбнае да яе абсталяванне разам з тэлевізарам. На апошнім сваім усеагульным сходзе (адбыўся ў канцы мая) дэлегаты гэтага аб'яднання пастанавілі апекавацца культурна-асветнай дзейнасцю ў Кошках.

(хх)

### ПАПОЎНІЛІ СВАЕ ВЕДЫ

Нядаўна ў Дубічах Царкоўных адбылося заканчэнне пачатковай вучобы для дарослых. Распачата была яна ў кастрычніку мінулага года. Аб высокім узроўню навучання і пільнасці дубіцкіх настаўнікаў сведчыць той факт, што ў часе экзаменаў амаль усе курсанты на выдатна здалі экзамены і атрымалі пасведчанні заканчэння пачатковай школы.

**М. Панфілюк**
**Дубічы Царкоўныя**

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Susza" (brazylijski), 8—9. „Gdzie jest trzeci król" (polski), 10—11. „Trema" (USA), 12—13.

**Нараўка**
„Falstaff' (hiszpański), 9—13.

**Нарва**
„Ostatni po Bogu" (polski), 9—13.

**Чыжы**
„Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 9—13.

**Дубічы Царкоўныя**
„Rozwód z miłości" (węgierski), 9—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Szyfry" (polski), 9—13.

**Орля**
„Wieczny kalendarz" (bułg.), 9—13.

**Райск**
„Uliczka w milczenie" (NRD), 9—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), „Każdemu swoje" (włoski), 8—11.

**Міхалова**
„Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 8—9. „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), 10—11. „Molo" (polski), 12—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Szukam ojca" (radz.), 8—9. „Godziny nadziei" (polski), 10—11. „Zabawa w masakrę" (franc.), 12—13.

**Шудзялава**
„Kierunek Berlin" (polski), 9—13.

**Янаў**
„On nie chciał zabijać" (radz.), 9—13.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 8—9. „Kochać jak Romeo" (jugosł.), 10—11. „Krzyżacy" (polski), 12—13.

**Мельнік**
„Przeciwko Bogom" (polski), 8—9. „Cierpkie wino" (polski), 10—11. „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 12—13.

**Мілейчыцы**
„Awantura o Basię" (polski), 8—9. „Manewry Dniepr" (radz.), 10—11. „Siedem razy kobieta" (włoski), 12—13.

### ДУБРОЙСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Wspaniałe wakacje" (rumuński), 12—13.

**Ліпск**
„Paryż — Warszawa bez wizy" (polski), 12—13.



хадзіць такою парою па вуліцах забаронена пад страхам смерці. А з кватэры Ганны Навіцкай ціха, як цені выходзяць людзі. Ідуць да Антонаўскай вуліцы, захоўваючы паміж сабою дыстанцыю крокаў на 10—15. Недзе там, у глыбіні гэтай цемры, каля складаў, у варонку ад бомбы хлопцы павінны апусціць аўтаматы і патроны.

Чым бліжэй склады, тым большая небяспека. Яшчэ некалькі крокаў — і сілуэты людзей нават у цемры можа заўважыць варта. Чатыры жанчыны і адзін мужчына цяпер ужо не ідуць, а паўзуць па зямлі. Палеглі метраў за дваццаць ад варонкі, чакаюць...

Чутно, як на складзе размаўляюць паміж сабою вартавыя, нехта ходзіць зусім побач, бліжэй, яшчэ бліжэй... Нешта стукнулася аб зямлю, можа і ціха стукнулася, але ім здалося, што нават пакацілася далёка-далёка. У тую ж хвіліну святло электрычнага ліхтарыка паказала напрамак: сюды! Цяпер крокі аддаляліся, аддаляліся, і вось ужо зноў апраметная цемра і цішыня.

«Белка» — Кашычкіна была сярод іх самая худая і спрытная. Поўзала яна па зямлі ціха і непрыкметна. Залезла ў варонку і пачала па адным падаваць наверх аўтаматы.

*

— Запішыце мяне, калі ласка на прыём.

— Да каго?

— Да Клумава.

— Пачакайце, зараз пагляджу. Здаецца, на сёння ўжо нельга.

— Я вас вельмі прашу, я вельмі хворая...

Жанчына-рэгістратарка некалькі хвілін корпалася ў паперках, нешта падлічвала. А Насця стаяла і трывожна глядзела на яе рукі, быццам толькі ад іх, ад гэтых рук, залежала цяпер усё.

— Вам пашанцавала. Апошні нумарок. Спяшайцеся.

За сталом сядзеў і нешта запісваў у гісторыю хваробы прафесар Клумаў. А побач з ім сядзеў... немец, ваенны. Клумаў, не адрываючыся ад гісторыі хваробы, паказаў Насці рукою на невялічкую шырмачку.

— Распранайцеся, зараз я вас пагляджу.

— Не, не прафесар, я не магу...

— Як гэта «не магу»? — Чорныя густыя бровы прафесара сярдзіта сышліся ля пераносся. — Што за глупства!

— Не магу. Тут староннія людзі. Я саромеюся...

— Гэта ўрач, такі самы, як я. Нямецкі доктар, разумееш, галубка? Можна яго не саромецца.

— Не магу, прафесар...

Насця глянула на Клумава так, быццам душу яму сваю раскрыць хацела. І такая трывога, такі боль быў у гэтых вачах, што прафесар сапраўды зразумеў і павярнуўся да нямецкага ўрача:

— Прашу вас, калега, пакіньце нас на некалькі хвілін. Жанчына саромеецца.

І ледзь толькі за ім зачыніліся дзверы, павярнуўся да Насці.

Жанчына ціха назвала пароль:

— Масква.

— Ну, што скажаш, галубка? Чаго прыйшла?

— Выручайце, прафесар: тэрмінова патрэбен шоўк у спірце. Партызан цяжка ранены.

Падышоў да шафы, узяў бутэльку, працягнуў яе Насці. І раптам... без стуку ў пакой увайшоў нямецкі ўрач.

«Я так і абамлела, — расказвала потым Настасся Данілаўна Локаць. — Павярнулася бокам, кручу ў руках бутэльку з заспіртаваным шоўкам, не ведаю, што з ёю рабіць. Потым усё ж неяк схамянулася і сунула яе ў кішэню, балазе не заўважыў немец. А прафесар не разгубіўся: дастаў з шафы бутэлечку з крышталікамі сухога ёду, працягнуў яе мне, гаворыць:

— Вось гэта прымай. Усё будзе ў парадку.

Узяў мяне за плечы, лёгенька так сціснуў: трымайся, маўляў, жанчынка; прачыніў перада мной дзверы.

— Ідзі, галубка, ідзі. Усё будзе добра. А калі што... прыходзь яшчэ. — І паўтарыў мне ўслед: — «Прыходзь!»

І яна прыходзіла... Не раз і не два.

«Локаць Настасся Данілаўна, — сведчыць адна з даведак, — была сувязною атрада імя газеты «Праўда»... Яна здабывала звесткі аб нямецкіх войсках у горадзе Мінску, аб іх размяшчэнні, аб асабістым складзе і ўзбраенні. Яна здабывала атраду боепрыпасы, часткі ад зброі і медыкаменты».

...І медыкаменты.

**(Працяг за тыдзень)**



## Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKC I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP: Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6892



 

# ◆ ЗА КУФЛЕМ ◆

Нейк так пасля чацвёртага куфля прэзас нашага каапэратыва сказаў:

— Вельмі ж ужо цікава, што б вы зрабілі, каб я так раптам памёр? Напэўна ніводзін з вас нават пальцам бы не рушыў!

І абвёў нас такім нейкім позіркам.

Становішча, можна сказаць, было не зручнае. Трэба было нейк рэагаваць.

— О, выбачайце, пане прэзас! — першым вырашыў адазвацца рэферэнт. — Ужо хай толькі пан прэзас памрэ, дык будзьце спакойны!

— А што ж! — падтрымаў кладаўшчык. — Ужо там напэўна нешта на вянок выкраім, і на дамавінку...

— Што на вянок?! Што на вянок?! — абурыўся дастаўшчык. — Нашаму любімаму прэзасу належыцца вянок са стужкамі! І не нейкая там дамавінка, але добрая, дубовая труна, адпаведна да становішча!

— Хвілінку! — загарэўся рэферэнт. — Хвілінку! Не забывайма, што і картэж таксама павінен быць! Спераду аркестр пажарнай каманды, потым на падушках узнагароды, а за лафетам конь, асірацелы конь пана прэзаса!

— Бойцеся Бога, летуценнікі! — жахнуўся галоўны бухгалтар. — Не распальвайцеся! Адкуль я вам возьму на ўзнагароды? А адкуль на каня? Хай гэта будзе нават забойная штука, то і так я мусеў бы вычарпаць гадавы пахавальны фонд!

— Агідны скупердзяй! — падлізваўся да прэзаса кладаўшчык. — Нашаму любімаму прэзасу шкадуе! Літары на стужках будзе лічыць, ці не замнога! Скнара!

Зрабілася мітусня і толькі адзін прэзас сядзеў моўчкі над недапітым пятым куфлем піва, быццам чагосьці незадаволены.

Няўжо піва было сферментаванае?

Я ўласна не прыкмеціў.

**Раман Садоўскі**



— Праходзьце, калі лас-ка!

# НІЎКА



— Налева ці направа?

## Галаваломка



Растаўце лічбы ад 1 да 16 такім чынам, каб сума лікаў кожнага квадрата і палавіны дыяганалі раўнялася 34.

* ⁂ *

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:

50+49+1/2+38/76=100

### НЕ ТУДЫ

П'яны поркаецца каля вулічнага ліхтара, хоча яго адамкнуць штопарам.

— Ідзіце дамоў, тут ніхто не жыве, — кажа прахожы.

— Як ніхто? А чаму наверсе святло гарыць?

### БЕДНАЯ МУХА

Залецела неяк Муха ў лес. Убачыла там Мухамора і так закахалася, што адразу ж апшчаперыла лапкамі і пачала яго цалаваць. Ён быў такі прыгожы!

Бедная Муха...

**Я. Казлоўская**

### АДГАВАРЫЎСЯ

Антось злавіў у сваім свірне злодзея, які выкладаў з кубельца сала. Гэта быў сусед Нупрэй.

— Нупрэй, што ты тут робіш? — спытаўся гаспадар.

— Ката шукаю!

— Якога ката?

— Ну, свайго. Я думаў, што ты яго тут зачыніў, каб мышэй вылавіў.

### НЕ СПЯШАЙЦЕСЯ

— Мне здаецца, вы сядзіце на маім капелюшы.

— Мне таксама здаецца. А што, вам ужо трэба ісці?

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**На просьбе Колі, Мішы і Арка з Паўлаў, Бельскага павета, змяшчаем песню п.з.**

**Всю-то я вселенную проехал**

Русская народная песня

**Всю-то я вселенную проехал,**
**Нигде милой не нашел.**
**Я в Россию возвратился,**
**Сердцу слышится привет. (2 раза)**

**Где ж ты, светик, дорогая?**
**Сердцу весточку подай!**
**Где ж вы, очи голубые,**
**Где ж ты, прежняя любовь?**
**(2 раза)**

**Ты заслышь мой голосочек,**
**Разлюбезная моя,**
**За твои за глазки голубые**
**Всю вселенную отдам! (2 раза)**

### АБ МОДЗЕ

Мо год мінуў, як моду ў нас змянілі,
Паспелі ўжо прывыкнуць да яе.
З'явіліся ў дзяўчат спадніцы-міні, —
Такая да кален не дастае.

І тая мода — кожны ўбачыць можа —
Да твару ці да ног не ўсім ідзе!
Адной дзяўчыне нават і прыгожа,
Другая ж — нібы чапля на вадзе.

Спрачаюцца падоўгу і натужна,
Якія лепшыя сукенкі для дзяўчат:
Хто за кароткія гарою дружна,
Другія ж — каб былі да самых пят.

Глядзіце самі, вы ж на то й паненкі,
А я хачу адно вам падказаць:
Лягчэй да ног вам падабраць сукенкі,
Чым ногі
да сукенак
падганяць.

**Мікола Вяршынін**



### ХУТЧЭЙ

Вядомы нямецкі акцёр Дэўрыент іграў у трагедыі Шэкспіра «Кароль Рычард III» ролю караля. Пасля вядомай рэплікі: «Каня! Каня! Паўцарства за каня!» — з залы пачуўся голас:

— А асёл не патрэбны?

— Вядома, патрэбны, хадзіце сюды хутчэй! — адказаў Дэўрыент.





— Другі санітар у водпуску...

### СУПАКОІЛА

Устрывожаны мужчына ўбег у хату да суседкі і, заікаючыся, сказаў:

— Твой Алесь сядзіць у абдымках маёй жонкі.

— І вас гэта турбуе? Дык давайце мы не толькі абдымемся, але і пацалуемся, — адказала суседка.

### ЛЯ ВОГНІШЧА

Сцяпан: — Мікалай, ты дыміш!

Мікалай: — На люльку, падымі і ты!

Сцяпан: — Ды не, твая вопратка дыміцца!

Мікалай: — Дык якога ж д'ябла ты раней не сказаў!

### УДАЛАЯ ЛОЎЛЯ

— І ахвота табе тырчэць цэлы дзень на рэчцы, калі нічога не клюе?

— Як нічога? Я ўчора выцягнуў чаравік. Можа, сёння ўдасца выцягнуць і другі.

### ТРЭЦІ ЛІШНІ

На вуліцы сустрэліся два сябры.

— Добра, што ты мне трапіўся, — узрадаваўся адзін. — Іду на спатканне, хадзем са мною.

— Навошта я буду табе перашкаджаць.

— Наадварот. Калі мая каханая цябе ўбачыць, мае шанцы адразу ўзрастуць.

### ЗА АБЕДАМ

— У газетах пішуць, што найбольш няшчасцяў здараецца на кухні. Ты ведаеш пра гэта, мой любы?

— Канешне. Там яшчэ трэба напісаць, што найбольш мужчын вымушана потым тыя няшчасці з'есці.

### ДЫЯЛОГ

Маці: — Дзе ты была, няшчасная?

Дачка: — У Томі. Ён запрасіў мяне на вячэру.

Маці: — А пасля, што вы рабілі пасля?

Дачка: — А пасля мы снедалі.

### ПЕРАМОЖЦЫ

Кліент: — Некалькі разоў я заказваў ракаў, а вы прыносіце ўвесь час іх без клешняў.

Афіцыянт: — Ведаеце, ракі любяць біцца, і часта больш дужыя адрываюць клешні ў слабейшых.

Кліент: — Тады прынясіце мне порцыю ракаў-пераможцаў.

# Курёзы

### Міс Інтэрнацыяна危

Новай «Міс Інтэрнацыянаць» сталася 23-гадовая японка Макіка Кімура, якая жыве ў Аўстраліі. Сярод 97 сёлеташніх кандыдатак з 24 краін праведзена перш за ўсё тэсты, якія выяўлялі інтэлігенцыю і веданне... геаграфіі.



### Новае аб міні-спадніцах

Паводле паведамлення аднаго англійскага часопіса, які выдаецца асацыяцыяй служачых дзяржаўных і мясцовых органаў улады, у Францыі праведзены доследы, якія паказалі, што міні-спадніцы робяць больш поўнымі ногі.

Вынікі гэтага доследу не засталіся незаўважанымі. Газета «Інтэрнешыл геральд трыбюн» прыводзіць наступную цытату з таго ж часопіса: «Цяпер у Францыі і ЗША пачаліся даследаванні, якія павінны ўстанавіць, ці нельга зрабіць больш мясістымі ягузкі і філейныя часткі авечак і буйной рагатай жывёлы, папярэдне падстрыгшы гэтыя часткі, каб валасы не перашкаджалі ўздзеянню стыхіі».

Прыходзіцца канстатаваць — не ўсе навіны дрэнныя.




**Сем разоў адмерай, а рэзаць папрасі іншага: будзе на каго наракаць, калі не атрымаецца.**